# Acta Archaeologica Albaruthenica



Vol. I

2007

УДК 902/904(476) (082)

ББК 63.4 (4Беи)я43

А 43

**Укладальнікі:**

М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч

**Рэдакцыйная рада:**



Рэцэнзенты:

кандидат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі
першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі
М.М. Крывальцэвіч
кандидат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі
першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі
М.І. Лашанкоў

А 43 **Acta archaeologica Albaruthenica.** Vol. I (Вып. 1) / уклад. М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. - Мінск : І.П. Логвінаў, 2007. - 148 с

Першы выпуск новага археалагічнаіа выдання Acta archaeologica Albaruthenica складаецца з артыкулаў беларускіх і расійскіх даследчыкаў, прысвечаных вывучэнню актуальных пытанняў гісторыі матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларусі ў старажытнасці і сярэднявеччы.

Зборнік разлічаны на археолагаў, гісторыкаў, музейных супрацоўнікаў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца археалогіяй і гісторыяй Беларусі.

УДК 902/904(476) (082)

ББК 63.4 (4Беи)я43

# ЗМЕСТ

## АРХЕАЛОГІЯ КАМЕННАГА І БРОНЗАВАГА ВЯКОЎ



## АРХЕАЛОГІЯ ЖАЛЕЗНАГА ВЕКУ



## СЯРЭДНЕВЯКОВАЯ АРХЕАЛОГІЯ

# Ад укладальнікаў

Шаноўны чытач трымае ў руках першы выпуск часопіса «Acta archaeologica Albaruthenica». Гэта новае археалагічнае выданне, якое мае на мэце якасную прэзентацыю вынікаў вывучэння старажытнасцяў Беларусі і сумежных рэгіёнаў. Разам з тым мы шчыра спадзяемся, што з'яўленне гэтага выдання дазволіць не толькі публікаваць матэрыялы новых даследаванняў, але адначасова дапаможа наладзіць абмеркаванне актуальных навуковых праблем і стане своеасаблівай пляцоўкай для пленных дыскусій па самым шырокім коле пытанняў сучаснай беларускай археалогіі.

У першы выпуск «Acta archaeologica Albaruthenica» увайшлі артыкулы беларускіх і расійскіх спецыялістаў, прысвечаныя розным пытанням археалогіі каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў, а таксама сярэдневяковага перыяду. Усе гэтыя артыкулы аб'ядноўвае тое, што асноўная ўвага іх аўтараў засяроджана на вывучэнні розных аспектаў матэрыяльнай культуры і гаспадарчай дзейнасці старажытнага і сярэдневяковага насельніцтва Беларусі і сумежных рэгіёнаў.

# АРХЕАЛОГІЯ КАМЕННАГА І БРОНЗАВАГА ВЯКОЎ

*Міхал Чарняўскі*

## РАГАВЫЯ ШАХЦЁРСКІЯ ПРЫЛАДЫ З КАРПАЎЦАЎ ВАЎКАВЫСКАГА РАЁНА

У наваколлі населеных пунктаў Краснасельскі, Навасёлкі і Карпаўцы Ваўкавыскага раёна, што размешчаны на сярэднім цячэнні Росі, у канцы неаліту і ў бронзавым веку існаваў найвыдатнейшы вытворчы цэнтр па здабычы і апрацоўцы крамянёвай сыравіны. Ён складаўся з крэмнездабыўных шахтаў, крэмнеапрацоўчых майстэрань і сезонных пасёлкаў шахцёраў. Гэтыя помнікі, асабліва шахты, выяўленыя ў 20-х гадах мінулага стагоддзя (Б. Рыдзеўскі, З. Шміт (Szmit, 1926a, 1926b; Cehak-Hołubowiczowa, 1936)) атрымалі даволі грунтоўнае асвятленне ў археалагічнай літаратуры (Гурина, 1976; Чарняўскі, Кудрашоў, Ліпніцкая, 1996).

Пры кар'ерных работах па здабычы крэйды, якімі знішчаліся шахты, і пры археалагічных раскопках ацалелых падземных выпрацовак каля пасёлка Краснасельскі і часткова каля вёсак Карпаўцы і Навасёлкі (1963-1972 гг.) сустрэта даволі значная колькасць рагавых шахцёрскіх інструментаў (Гурина, 1976, с 5-62; Boguszewski, 1984). Зараз гэтыя вырабы захоўваюцца ў Дзяржаўным археалагічным музеі ў Варшаве, Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Інстытуце гісторыі матэрыяльнай культуры РАН (Санкт-Пецярбург), Ваўкавыскім ваенна-гістарычным музеі імя П.І. Баграціёна, вучэбнай лабараторыі музейнай справы гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у Роскай сярэдняй школе Ваўкавыскага раёна, часткова ў прыватных зборах калекцыянераў.

У 1973-1979 гг. пры даследаваннях крэмнеапрацоўчых майстэрань і шахтаў на крэйдавай лінзе на захад ад вёскі Карпаўцы і шляхам збору пад'ёмнага матэрыялу ў мясцовым крэйдавым кар'еры (В.П. Чамеза, В.А. Пучко, М.У. Вераціла, М.М. Чарняўскі) атрымана новая калекцыя рагавых шахцёрскіх інструментаў (62 вырабы і іх фрагменты), якая захоўваецца ў фондах аддзелаў археалогіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Частка іх ужо ўведзена ў навуковы ўжытак (Чарняўскі, Кудрашоў, Ліпніцкая, 1996, с 25-28, 100-103). Колькасць, разнастайнасць і значэнне вырабаў для разумения горназдабыўнай справы позняга неаліту - бронзавага веку на Захадзе Беларусі вымагаюць далейшага іх вывучэння.

- Прылады працы першабытных шахцёраў сярэдняга Паросся былі каменныя, драўляныя і рагавыя. Каменныя, пераважна крамянёвыя, сякеры ўжываліся таксама і ў штодзённым побыце. Драўляныя не захаваліся, маюцца толькі адбіткі некаторых на крэйдавым друзе запаўнення шахтаў. А вось рагавыя былі спецыялізаваныя, г.зн. выкарыстоўваліся толькі ў горназдабыўнай справе, і выдатна захаваліся, закансерваваныя крэйдай.

За невялікімі выключэннямі, для вырабу шахцёрскіх інструментаў выкарыстоўваліся рогі высакароднага аленя. Сыравіну збіралі ў навакольных лясах увесну пасля таго, як жывёлы скідвалі рогі перад пачаткам росту новых. Н.М. Гурына, прааналізаваўшы больш за сотню рагавых вырабаў з Краснасельскага вытворчага

цэнтру, падзяліла іх на дзве вялікія групы: 1) спецыяльна зробленыя прылады і 2) натуральныя рогі (цэлыя або фрагментарныя), часам падпраўленыя на рабочых частках (Гурина, 1976, с 50-62). Прызнаючы правамернасць такога падзелу трэба адзначыць, што ў другой групе пераважная колькасць фрагментаў рагоў таксама мае выразныя сляды спецыяльнай мэтанакіраванай апрацоўкі.

### *Шахцёрскі інструментарый з Карпаўцаў*

**1. Кіркі**

Кіркі прызначаліся для праходкі вертыкальных шахтавых калодзежаў і шырэйшых месцаў падбояў, дзе можна было працаваць з замахам. Некаторыя кіркі маюць задоўбленасць на абушках (на плашчынях разетак). Магчыма, яны маглі выкарыстоўвацца ў шахтах і для збівання з крамянёвых канкрэцый непатрэбных выступаў.

*1.1. Кіркі, змайстраваныя з ніжняй, прыразеткавай (камлёвай) часткі аленевых рагоў.*

Кірка масіўная, двухручная. Рукаятка коса адламаная на 14 см вышэй трэцяга (сярэдняга, падкароннага) адростка, другі (надвочны) і трэці адросткі аддзеленыя над пянькамі надсяканнем і зломам. Вастрыём быў першы (вочны) адростак, пазней абламаны над пяньком. Умераныя сляды загладжвання маюцца паміж трэцім адросткам і канцом рукаяткі, разеткавая плоскасць носіць сляды задоўбленасці (мал. 1:1).

Кірка. Другі адростак надсечаны і зламаны. Першы адростак, які быў рабочым вастрыём, зламаны ў час працы. Ніз рукаяткі коса зламаны, сама рукаятка загладжаная (мал. 1:2).

Кірка з разеткавай часткі масіўнага рога, выламанага з чэрапа. Кароткі пянёк стажкавата апрацаваны і задоўблены на тарцы. Першы адростак аддзелены ў старажытнасці, другі, які быў рабочым вастрыём, адламаны ў час выкарыстання прылады, ніз рукаяткі коса абламаны па паленаму. На рукаятцы ў месцах упору далоні і вялікага пальца рукі маецца невялікая загладжанасць, абгарэласць адзначаецца на ўсіх зломах і пяньку першага адростка (мал. 1:3).

Кірка. Першы (рабочы) адростак адшчапаны ў час працы разам з паловай разеткі, другі адростак адламаны пры майстраванні кіркі. Ніз рукаяткі мае сляды папярочнага неглыбокага надсякання і злому, злом прыгладжаны. Паверхня рукаяткі найбольш загладжаная ў месцах трымання яе пальцамі. Пляцоўка разеткі мае насечкі і сляды задоўбленасці (мал. 1:4).

Кірка. Рукаяткай служыў ствол, аддзелены адразу пад другім адросткам. Першы адростак быў рабочым вастрыём (мал. 1:5).

Кірка, у якой вастрыём быў першы вочны адростак, абламаны на палове; другі адростак абсечаны і адламаны на пяньку. Рукаятка кароткая, аддзеленая ад рэшты ствала рога кальцавой надсечкай і ламаннем. Яе паверхня, як і злом, добра загладжаная (мал. 1:6).

Кірка. Вастрыём быў першы вочны адростак, у працы адламаны паверх пянька, другі адростак адламаны наўмысна на пяньку. Ніз рукаяткі мае загладжаны пянёк трэцяга адростка. Ніжэй трэцяга адростка злом загладжаны і мае сляды надсякання. Дзяржанне ў месцы рукі толькі крыху загладжана - прылада выкарыстоўвалася даволі кароткі час (мал. 1:7).

Кірка. Над разеткай прыкметна выступае стожкападобны загладжаны пянёк, выламаны з чэрапа, на пяньку ўчастак задоўбленасці. Рабочымі вастрыямі прылады былі першы (вочны) і другі (надвочны) адросткі, адбітыя пры кар'ерных работах. Ніз рукаяткі са ствала рога захаваў сляды кальцавога надсякання і загладжвання злому.

Кірка, якая магла быць і адбойнікам, ужывалася кароткі час, бо фактура паверхні амаль не спрацаваная (мал. 1:8).

Кірка. Захавалася разеткавая частка. Рукаятка са ствала рога адламаная, коса адламаны над пяньком і вочны адростак, які быў рабочым вастрыём. Другі адростак недаразвіты, ён конусападобна ахайна загладжаны. Увагнутая паверхня рога паміж ім і вочным адросткам таксама гладкая. Пляцоўка разеткі спрацаваная. Пасля пашкоджання рабочага вастрыя прылада магла ўжывацца як адбойнік, а таксама, мяркуючы па загладжаным надвочным адростку, для нейкіх іншых мэтаў (мал. 1:9).

Кірка з двума рабочымі вастрыямі, утваранымі з першага і другога адросткаў. Першы адростак зламаны на канцы ў старажытнасці, мае заломы спрацаванасці. Рукаятка загладжана пераважна ў месцы далоні і вялікага пальца (мал. 1:10).

*1.2. Кіркі, змайстраваныя з сярэдняй часткі аленевых рагоў.*

Кірка доўгая. Вастрыём быў сярэдні (трэці) коса завостраны адростак. Вышэй яго і на нізе рукаяткі зломы па паленаму. Меншая дуга рукаяткі даволі загладжаная,
каля нізу рукаятка спрэе гладкая (мал. 2:1).

Кірка. Рукаятка даволі кароткая, яе верхні канец (абушок прылады) над адросткам ахайна надсечаны і абламаны, ніз няўдала абламаны крыху ніжэй шматлікіх і недакладных папярочных насечак. Рабочае вастрыё-адростак мае канічны гладкі канец. У цэлым ўся прылада мае загладжаную паверхню (мал. 2:2).

Кірка. Рабочым вастрыём яе быў сярэдні зламаны ў старажытнасці адростак. На верхнім і ніжнім канцах кіркі маюцца зломы без папярэдняга надсякання. Уся паверхня вырабу прыгладжаная (мал. 2:3).

Кірка з кароткай рукаяткай з фрагмента ствала. Адростак, які быў рабочым вастрыём, доўгі і цэлы. На яго сякерападобна прывостраным канцы маецца выразная запаліраванасць ад крэйдавай пароды, ёсць і драпіны, што засталіся ад судакранання з крамянёвымі канкрэцыямі. Загладжанасць адзначаецца і на ўвагнутасці рукаяткі пад адросткам. Верхні канец (абушок) кіркі ўтвораны зломам па абпаленаму участку ствала, ніз рукаяткі таксама абламаны і прыгладжаны. Прылада пры неабходнасці магла выкарыстоўвацца і як кінжалападобны капач (мал. 2:4).

Кірка. Ніз рукаяткі абламаны, вастрыё рабочага адростка таксама адламанае. Абушок прылады над адросткам мае сляды кальцавога надсякання, адлом па надсяканню загладжаны. На тыльным участку рога каля вяршыні маецца ўчастак загладжанасці (мал. 2:6).

*1.3. Кіркі, змайстраваныя з верхняй, каронная часткі аленевых рагоў.*

Кірка. Рукаяткай служыў даўжэйшы адростак, зараз адламаны на канцы. Рабочае вастрыё ўтвараў карацейшы, крыху выгнуты адростак. Трэці адростак развілкі адламаны па пяньку. Абушком прылады быў даўгаваты фрагмент ствала, ахайна аддзелены ад рэшты рога. Прылада, улічваючы даўжыню абушка, першапачаткова магла быць вілкаватым капачом (мал. 2:5).

Кірка. Два адросткі зламаныя, трэці адламаны па пяньку. Абушком быў даволі кароткі фрагмент ствала рога, адламаны каля папярочных насечак з аднаго боку. Рабочымі вастрыямі маглі быць абодва адросткі (мал. 2:7).

Абушковая частка кіркі, утвораная ахайна аддзеленым фрагментам ствала. Рукаятка і вастрыё адламаныя, трэці адростак неразвіты (мал. 2:8).

*1.4. Фрагменты кірак, пераважна з сярэдняй часткі аленевых рагоў.*

Рукаятка кіркі з тоўстага ствала аленевага рога, спрэе загладжаная, абодва канцы адламаныя.

Цэлая масіўная рукаятка кіркі са ствала рога, вышэйшы лапатападобны адростак адламаны.

Масіўная рукаятка кіркі са ствала, верх і адростак адламаныя.

Адкол з падставы масіўнай рукаяткі кіркі.

*1.5. Кірка з прасвідраванай адтулінай.*

На крэйдавым адорвені каля Карпаўцаў у запаўненні адной з шахтаў знойдзена кірка з асновы кароны аленевага рога, у цэнтры якой прасвідраваная адтуліна для драўлянай рукаяткі. Рабочае вастрыё кіркі адламанае ў старажытнасці (Чарняўскі, Кудрашоў, Ліпніцкая, 1996, мал. 16:3).

Падобныя інструменты з прасвідраванымі адтулінамі ў Краснасельскім вытворчым рэгіёне прадстаўлены адзінкава. І гэта зразумела. На іх выраб патрабавалася значна больш намаганняў, а выдайнасць працы была, як і ў звыклых Г-падобных кірак. Хіба што іх можна было дадаткова выкарыстоуваць пры выграбанні крэйдавага друзу з асабліва вузкіх мясцін падбояў.

**2. Капачы**

У вузкіх падбоях, а таксама пры даставанні з крэйдавай пароды крамянёвых канкрэцый, калі праходка адкладаў павінна была рабіцца колючымі рухамі інструментаў, ужываліся капачы.

*2.1. Капачы кінжападобныя.*

Капач з доўгага адростка. Абушок прылады ўтварае аддзелены з двух канцоў надсяканнем і адломваннем кароткі фрагмент ствала рога. На падставе адростка каля ствала маюцца папярочныя насечкі і сляды абпаленасці - магчыма, для капача хацелі выкарыстаць толькі адростак. Канцавая частка адростка добра загладжаная, асабліва на меншай дузе выгнутасці, вастрыё скошана счэсваннем. Добра загладжаныя і адчляненні на абушку (мал. 3:1).

Капач з першага вочнага адростку. Абушок прылады ўтварае кароткі фрагмент ствала рога разам з разеткай, месца аддзялення загладжанае. Адростак на канечнай палове добра загладжаны, вастрыё кіркападобна счасанае (мал. 3:2).

Абушок капача, утвораны разеткавай часткай ствала'рога. Вастрыём быў першы вочны адростак, адламаны ў час выкарыстання каля падставы. Другі адростак аддзелены ад ствала, яго пянёк загладжаны. Разеткавая плашчыня мае насечкі і падоўбленасць - прылада ўжывалася і як малаток або адбойнік (мал. 3:4).

Фрагмент масіўнага капача, аналагічнага папярэдняму. Разеткавая частка ствала была аддзеленая адразу ж над прыгладжаным пяньком другога адростка. Вастрыём быў першы адростак, зламаны ў старажытнасці. Супрацьлеглая адростку паверхня ствала прыгладжаная (мал. 3:5).

Капач з доўгага адростка, выламанага са ствала рога. Злом загладжаны. На падставе адростка ёсць папярочныя насечкі і вуглістая абпаленасць - для прылады першапачаткова хацелі выкарыстаць толькі адростак. Вастрыё капача, асабліва ўнутраны выгін, запаліраванае, з драпінамі, яго канец спрацаваны (мал. 3:3).

Капач з адростка рога. На яго абушку шматлікія папярочныя насечкі і даволі неахайны скошаны разлом. Абушок загладжаны, канец вастрыя каротка завостраны (мал. 3:6).

Капач моцна выгнуты, з адростка аленевага рога. Адростак быў аддзелены каля самага ствала кальцавым надсяканнем да порыстай часткі і наступным адломваннем у бок найбольшай выпукласці. Кампакта на адломе па перыметру прыгладжана. Першапачаткова, відаць, планавалася аддзяліць адростак з водступам ад ствала рога - у гэтым месцы захаваліся рознай глыбіні насечкі, адна з іх пранікала да губчатай сарцавіны. На выпуклай частцы капача знятая і запаліраваная бугрыстая паверхня ад вастрыя і амаль да абушка. Гэта запаліраванасць наўмысная (месцамі маюцца падоўжныя драпіны), а таксама атрымалася і ад працы з крэйдавай пародай.

Рэшта бутрыстай паверхні таксама даволі прыгладжаная. Вастрыё прылады акуратна спічастае. На ім даволі добра прыкметныя сляды падоўжнага завастрэння нажом (мал. 3:7).

Капач з ахайным абушком - загладжаным адчляненнем адростка, вастрыё адламанае (мал. 3:9).

Капач доўгі з кароннай часткі рога. Рабочым вастрыём быў адзін вілачны адростак, замест другога захаваўся загладжаны пянёк. Прылада магла выкарыстоўвацца і як рычаг пры даставанні з крэйдавай пароды крамянёвых канкрэцый (мал. 3:8).

*2.2. Капачы вілападобныя, змайстраваныя з каронай часткі аленевых рагоў.*

Кароткі капач з двума адросткамі, трэці адламаны. Адростак з каленападобнай крывізной быў коса завостраны на канцы, рукаятка загладжаная на абушку. Прылада магла выкарыстоўвацца і як кірка (мал. 4:1).

Кароткі капач з адламаным большым адросткам і спрацаваным прылабачаным меншым. У тарцы абушка ахайна выбрана порыстая сарцавіна, што сведчыць пра магчымае выкарыстанне прылады і як муфты (мал. 4: 5).

Капач з верхняй паловы рога, аддзеленай у месцы мацавання падкароннага адростка. Захаваліся тры каронныя адросткі з выразнымі завастрэннямі канцоў (мал. 4:6).

Капач з масіўнай часткі кароны, трэці адростак развілкі аддзелены, ніжняя частка ствала-рукаяткі загладжана, яе ніз аддзелены адсяканнем і зломам.

Фрагмент масіўнай кароннай часткі рога, адзін сплюшчаны адростак адламаны каля падставы, такі ж другі загладжаны на канцы пад лапату. Прылада магла быць капачом і інструментам для адграбання пароды.

Капач з адламаным вастрыём кароннага адростка, абушок з падставы кароны.

**3. Разеткавыя часткі аленевых рагоў з адшчэпленай кампактай**

Пры даследаванні шахтаў каля пасёлка Краснасельскі былі знойдзены плоскія лёзападобныя ўстаўкі ў капальныя інструменты, зробленыя з адшчапаных пласцін кампакты аленевых рагоў (Гурина, 1976, с. 62, рис. 24:1-4). Каля Карпаўцаў такіх уставак не выяўлена, аднак фрагменты рагоў з адшчэпленай кампактай вядомыя і тут.

Разеткавая аснова рога з масіўным вочным адросткам, канец якога сякерападобна завостраны. Другі адростак аддзелены па пяньку. З супрацьлеглай адросткам паверхні ствала рога, з дапамогай глыбокіх разцовых баразёнак да порыстай сарцавіны, адшчапана пласціна кампакты разам з участкам разеткі. Прылада магла нейкі час, да пералому ў месцы знятай кампакты, выкарыстоўвацца як кірка, аднак пазней яна служыла кінжалападобным капачом, пра што сведчыць загладжанасць каля падставы рабочага адростка, якая засталася ад рукі шахцёра (мал. 4:2).

Разеткавая частка рога з першым надвочным адросткам. Пры вастрыі адростак загладжаны, а сам канец скошаны з боку выпукласці і мае сляды спрацаванасці. Ад другога адростка застаўся кароткі загладжаны пянёк. Ад паверхні ствала рога аддзелена пласціна кампакты. Для гэтага непасрэдна каля разеткі зроблена крамянёвай нешліфаванай сякерай або долатам глыбокая насечка да порыстай часткі. Відавочна, такая ж насечка мелася і перад трэцім адросткам, але гэта месца адламанае. Ад канцоў насечак разцом зроблены глыбокія прадоўжныя пазы. Пасля гэтага кампакта была адшчапаная. Рог наўмысна зламаны ў месцы адшчэпа. У выніку ўтварылася сякерападобная плашчыня, якая мае сляды спрацаванасці. Прылада магла ўжывацца як кірка (да адшчаплення пласціны?), як рубячы інструмент для працы з крэйдавай пародай і як кінжалападобны капач (мал. 4:4).

Разеткавая частка рога. Выпукласць разеткі ў цэнтры мае сляды спрацаванасці, вочны адростак аддзелены каля ствала рога. Пад разеткай на кампакце зроблены

глыбокія, да порыстай сарцавіны, папярочныя насечкі, падоўжныя пазы выбраныя клінаватым крамянёвым інструментам, пасля чаго былі аддзеленыя 2-3 пласціны кампакты. Артэфакт разламаны, верагодна, у час кар'ерных работ (мал. 4:3).

**4. Фрагменты шахцёрскіх інструментаў: пераважна адламаныя вастрыі кірак і капачоў**

Два адламаныя адросткі з сякерападобным завастрэннем.

Адламаны масіўны адростак, вастрыё пашкоджана, мае сляды завастрэння.

Адламаны адростак рога, самы тонкі канец пашчапаны, мае сляды загладжвання.

Вастрыё адростка з конусападобным тонкім спічаком, на меншай крывізне мае падчэску.

Абломак тоўстага адростка рога, вастрыё моцна спрацаванае, засталіся сляды счэсвання.

Адламаны ад самога пянька адростак, канец зачасаны з большай крывізны.

Адламаны кароткі і масіўны адростак з часткай ствала, канец завостраны счэсваннем.

Крывы і спрэе моцна загладжаны адростак, адламаны каля самага ствала, вастрыё таксама адламанае.

Фрагмент адростка з адломамі з двух канцоў.

Дробны шчапаны фрагмент адростка рога, абкатаны.

Дробны фрагмент сценкі рога.

Абломак сплюшчанага ствала рога ніжэй кароннай часткі.

Сплюшчаны абломак рога.

Аддзелены папярочным надсяканнем і падоўжным разразаннем фрагмент сценкі рога, абгладжаны.

Кароткі і крывы адламаны адростак, загладжаны, порыстая сарцавіна выдаленая (муфта?).

Адламаны адростак кароткі з сякерападобным завастрэннем, магчыма, з ласінага рога.

Адламаны з часткай асновы караткаваты адростак ласінага(?) рога, косая зачэска канца, па меншай крывізне зрэзана ўся фактура паверхні.

**5. Адбойнікі і пасярэднікі**

На майстэрнях каля вусцяў крэмнездабыўных шахтаў сустракаюцца рагавыя інструменты па апрацоўцы крамянёвай сыравіны - адбойнікі і пасярэднікі.

Адбойнік двухканцовы з разеткавай часткі рога. Два адросткі аддзелены па пяньках. Асноўная рабочая частка знаходзіцца на тарцы выламанага з чэрапа пянька, супрацьлеглы канец адбойніка таксама мае сляды ўжытку (мал. 4:7).

Кірка-адбойнік з разеткавай часткі рога маладога аленя. Рог выламаны з чэрапа ўпаляванай жывёлы. Пянёк над разеткай стажкаваты, на тарцы падзёўбаны, першы адростак адламаны. Рукаятка доўгая, коса абламаная, загладжаная пад далонню і вялікім пальцам (мал. 4:10).

Фрагмент загладжанага адростка, на таўсцейшым канцы кальцавое надсяканне і ахайны злом, на танчэйшым задоўбленасць. Прылада ўжывалася як пасярэднік пры апрацоўцы крэменю (мал. 4:9).

Адростак рога загладжаны, аддзелены ад ствала надсяканнем і адломам. На таўсцейшым канцы артэфакта маецца кальцавое надсяканне. Верагодна, з адростка рыхтаваўся пасярэднік папярэдняга тыпу (мал. 4:8).

Як бачым, старажытнымі шахцёрамі выкарыстоўваліся ўсе часткі аленевых рагоў.

За адзінкавымі выключэннямі, на выраб кірак прызначаліся рагавыя падставы, бо разеткі ўтваралі важкі абушок, што павялічвала эфектыўнасць інструменту. Рабочым вастрыём разеткавых кірак найчасцей быў першы (вочны), найбольш вялікі адростак. Другі (надвочны) адростак звычайна аддзяляўся. Праўда, часам разеткавыя кіркі мелі адначасова два вастрыі - з вочнага і надвочнага адросткаў. Кіркі практычна заўсёды майстраваліся і з сярэдняй часткі рога з падкаронным адросткам. Для надання іх абушкам адпаведнай вагі над адросткам звычайна пакідаўся прыкметны
фрагмент ствала. Калі адросткі кароны былі разложыстыя, з іх таксама майстравалася матыка, пры гэтым трэці адростак развілкі аддзяляўся. Такія каронныя матыкі нярэдка былі з двума вастрыямі, якія служылі і рукаяткамі, і рабочымі часткамі.

Кінжалападобныя капачы майстраваліся пераважна з вочнага або надвочнага адросткаў. Часам абушком ім служылі кароткія фрагменты ствала рога. Для вілападобных капачоў прызначаліся каронныя часткі.

Пласціны кампакты адшчапляліся выключна з прыразеткавых, найбольш масіўных частак рагоў.

Першапачаткова, магчыма, выкарыстоўвалася натуральная вастрыня канцоў адросткаў. Пры іх тупленні ў час капания пароды або пры скрышванні ад судакранання з крэменем, яны завастраліся счэсваннем або зразаннем - канічным, касым або сякерападобным, у залежнасці ад выгіну адростка і прызначэння прылады.

Рог непараўнаўча цвярдзейшы за дрэва, таму для яго апрацоўкі заўсёды патрабаваліся адпаведныя метады, найперш тэрмічныя. На канцах шахцёрскіх інструментаў нярэдка назіраецца надпаленасць. Рогі ў адпаведных месцах награваліся над агнём, затым надсякаліся па перыметры, каб атрымаўся роўны злом, і ламаліся. Часам, калі трэба было атрымаць рукаятку кіркі, рог разломваўся па нагрэтаму участку без надсякання. Аднак пры аддзяленні адросткаў надсяканне было абавязковым. Пры гэтым на ствале пакідаліся пянькі адросткаў, у іншым выпадку ствол легка ламаўся бы пры выкарыстанні інструмента. Месцы аддзялення адросткаў і разлому ствала звычайна загладжваліся, асабліва на рабочых частках, каб пазбегнуць траўмы шахцёра і наліпання крэйды ў час працы. Для гэтай жа мэты на рабочых участках капальных прыладаў і месцах трымання іх рукамі, як правіла, здымалася бугрыстая фактура паверхні рога. Гэта рабілася як наўмысна зразаннем, так і ад працы. Пры гэтым, верагодна, шахцёры працавалі з капальнымі інструментамі ў скураных рукавіцах.

З аднаго рога дарослай асобіны аленя звычайна атрымлівалі 2-3 паўнавартасныя кіркі і 2 капачы. Верагодна, шахцёры самі рыхтавалі сабе капальныя інструменты, і на іх адлюстраваліся індывідуальныя асаблівасці працаўнікоў. Так, некаторыя кіркі і капачы асабліва добра апрацаваныя і выгладжаныя. На іншых прыкметна неахайнасць, выпадковасць надсякання ствала, касыя зломы, іх незагладжанасць.

Старажытныя шахцёры з-над Росі не толькі валодалі сакрэтамі крэмнездабычы з зямных глыбінь, але і выпрацавалі дасканалы набор гарняцкіх інструментаў, якія па сваёй функцыянальнасці і марфалогіі праіснаваў наступныя тысячагоддзі, ажио да вынаходніцтва адпаведных машын навейшага часу.

*Літаратура*

1. **Турина, Н.Н.** Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Л., 1976.

2. **Чарняўскі,** М.М., **Кудрашоў,** В.Я., **Ліпніцкая,** В.Л. Старажытныя шахцёры на Росі. Мн., 1996.

3. **Boguszewski,** A. Narzędzia rogowe z wczesnobrązowej kopalni krzemienia w Krasnym Siole nad rzeką Roś // WA. T. XLIX. Z. 2. 1984.

4. **Cehak-Hołubowiczowa, H.** Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936.

5. **Szmit, Z.** Przedhistoryczna kopalnia krzemienia pow Wołkowyski na Litwie // Z otchłani wieków. Z. 1. 1926a.

6. **Szmit,** Z. Kopalnie krzemienia w Wołkowyskiem // Ziemia. № 11. 1926b.

*Mikhail Charniauski*

**Horn mining Tools from Karpautsy, Vaukavysk District**

A productive center of flint mining and treatment existed in the middle flow of the Ros river near Krasnaselski, Navasiolki and Karpautsy villages (Vaukavysk district) in the Late Neolithic and Bronze Ages. As a result of the researches of flint workshops and mines on a chalk lense, a collection of horn mining tools (62 specimens and their fragments) were formed. With a few exceptions red after antlers were used for their production.

Picks were used for digging vertical shaft wells and wider chambers. There were picks made of deer beam antler (fig. 1:1-10), picks made of the middle part of antler (fig. 2:1-4, 6), picks made of the upper part of antler (fig. 2:5-7, 8), fragments of picks which are mainly made of the middle part of antler and picks with a drilled hole. In narrow chambers and for taking flint nodules out from chalk blocks digging tools («kapach») were used: daggerlike «kapach» (fig. 3:1-9), «kapach» made of deer beam antler.

In the collection of horn artefacts from Karpautsy there are also rosette parts of deer antler (fig. 4:2-4); fragments of mining tools; percussors and punches (fig. 4:7-10).




*Мап. **1.** Карпаўцы. Кіркі з прыразеткавых (камлевых) частак рагоў*



*Мал. 2. Карпаўцы. Кіркі з сярэдніх (1-4, 6) і каронных (5, 7, 8) частак рагоў*




*Мал. 3. Карпаўцы. КІнжалападобныя капачы і іх фрагменты*




*Мал. 4. Карпаўцы. Рагавы інструментарый: 1, 5, 6 - капаны вілападобныя; 2, 3, 4 - разеткавыя часткі рагоў з адшчапанай кампактай; 7-10 - прылады для апрацоўкі крэменю*

*Вадзім Лакіза, Віталь Сідаровіч*

# КЕРАМІКА ЭПОХІ НЕАЛІТУ І БРОНЗАВАГА ВЕКУ З ПАСЕЛІШЧА ДАКУДАВА 5 (РАСКОПКІ 1998, 1999 І 2004 ГАДОЎ)

Помнік эпохі неаліту і бронзавага веку Дакудава 5 размешчаны праз 2,5-3 км на паўднёвы ўсход ад маета праз раку Нарву ў вёсцы Дакудава Лідскага раёна Гродзенскай вобласці пасярод шырокай правабярэжнай поймы ракі Нёман і займае дзюну памерамі каля 60x100 м, вышынёй да 2,6 м (мал. 1). Ён быў выяўлены ўвесну 1998 г., у час сумеснай экспедыцыі па абследаванню правабярэжжа ракі Нёман супрацоўнікамі аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў Інстытута гісторыі НАН Беларусі В.Л. Лакізам і М.М. Чарняўскім (Лакіза, 1998; Лакіза, Сідаровіч, 1998, с 581-582). У тым жа годзе, у пачатку чэрвеня, В.Л. Лакіза правёў шурфоўку помніка на плошчы 6 м$^2$ (Лакіза, 1998). Пераважная большасць знойдзенага ў двух шурфах матэрыялу адносілася да эпохі ранняга неаліту. У сувязі з гэтым далейшыя даследаванні на паселішчы летам 1998 г. працягнуў В.М. Сідаровіч, які раскапаў 21 м$^2$ культурнага пласта. Атрыманы ім матэрыял адносіўся ў асноўным да позняга неаліту і бронзавага веку (Сідаровіч, 1998). Таму, улічваючы значную каштоўнасць некаторых атрыманых на помніку керамічных матэрыялаў для вывучэння бронзавага веку правабярэжных раёнаў ракі Неман, у 1999 г. раскопкі на паселішчы Дакудава 5 на плошчы 48 м$^2$ правёў ужо В.Л. Лакіза (Лакіза, 1999). Ім жа ў 2004 г. было даследавана яшчэ 97 м$^2$ (Лакіза, 2004а; 2005, с. 223-224). Агульная даследаваная плошча, такім чынам, склада 172 м$^2$ (мал. 1). Выяўленыя ў час раскопак матэрыялы захоўваюцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, музеі Бердаўскай СШ Лідскага раёна Гродзенскай вобласці.

Для кароткай характарыстыкі помніка адзначым, што магутнасць культурнага пласта вагалася ад 0,4 да 0,6 м. Важна, што на плошчы раскопа былі выяўлены і даследаваны каля 20 разнастайных аб'ектаў, сярод якіх і рэшткі двух пахаванняў з суправаджальным інвентаром (Лакіза, 2005, с. 223-224).

У час раскопак на паселішчы Дакудава 5 было выяўлена 2532 фрагменты керамікі і 2 цэлыя ляпныя гаршкі. Сярод іх 2412 фрагментаў ляпной і 120 фрагментаў ганчарнай керамікі. Па плошчы раскопа кераміка размяркоўвалася амаль раўнамерна, з пэўнай канцэнтрацыяй каля аб'ектаў. Стратыграфічна керамічныя знаходкі не падзяляліся.

Значную колькасць артэфактаў складаюць вельмі дробныя, патрушчаныя, моцна пашкоджаныя фрагменты ляпной керамікі з мінеральнымі дамешкамі ў цесце без слядоў арнаментацыі (1044 фрагменты). Іх практычна немагчыма аднесці да той ці іншай культуры ці групы. Большасць ганчарнай керамікі - дробныя неарнаментаваныя сценкі. Некалькіх ганчарных венчыкаў датуюцца XVI стагоддзем ' (Лакіза, 2004а, мал. 32:3). Астатняя вызначальная ляпная кераміка належыць да вельмі шырокага храналагічнага адрэзку часу - ад ранняга неаліту да жалезнага веку (эпохай жалеза датуюцца 27 фрагментаў, якія належаць да культуры штрыхаванай керамікі)[2] (Лакіза, 2004а, с. 14).

[1] Вызначэнне А.В. Іова.
[2] Вызначэнне А.М. Мядзведзева.

*Табл. 1. Кераміка паселішча Дакудава 5*

| Культурна-храналагічная ідэнтыфікацыя | Колькасць |
|---|---|
| Прыпяцка-нёманская ранненеалітычная культура | 276 |
| Нёманская неалітычная культура | 639 |
| Культура шарападобных амфар | 25 |
| Кола культур шнуравой керамікі | 301 |
| Тшцінецкае культурнае кола | 64 |
| Кераміка позняга перыяду бронзавага веку | 26 |
| Жалезны век | 27 |
| Ляпная невызначальная кераміка | 1044 |
| Ганчарная кераміка | 120 |
| **Усяго:**<br>**фрагментаў**<br>**цэлых пасудзін** | <br>**2532**<br>**2** |

Мэта дадзенага артыкула - аналіз ляпной керамікі толькі эпохі неаліту і бронзавага веку. Адзначым, што менавіта кераміка, якая з'яўляецца адным з найболый масавых археалагічных матэрыялаў, адносіцца да важнейшых археалагічных крыніц, лічыцца надзейным паказчыкам пры вылучэнні археалагічных культур, вызначэнні іх арэалаў, вывучэнні лакальных асаблівасцей, рашэнні праблем храналогіі і перыядызацыі. Пры сістэматызацыі і аналізе керамікі з паселішча Дакудава 5 мы выкарысталі тры важнейшыя паказчыкі: 1) тэхналогію (дзе ўлічаны характар дамешкі да глінянага цеста, спосабы апрацоўкі паверхні посуду); 2) марфалогію (формы і памеры посуду, тыпы венчыкаў, дноў); 3) спосабы арнаментацыі (элементы, матывы, кампазіцыі).

***Кераміка прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры***

Вылучыў нёманскую неалітычную культуру і падрабязна яе апісаў у шэрагу артыкулаў і манаграфіі Міхал Чарняўскі (Чарняўскі, 1979; 2004). Выразныя рысы матэрыяльнай культуры, у першую чаргу керамікі, вялікая колькасць паселішчаў з магутнымі культурнымі напластаваннямі і значнай колькасцю артэфактаў дазволілі даследчыку не толькі вызначыць арэал культуры, але і падрабязна ахарактарызаваць яе тры этапы, зрабіць высновы адносна храналогіі і перыядызацыі. У апошнія гады М.М. Чарняўскі, пасля збору і аналізу новых дадзеных, прапанаваў унесці змены ў схему культурнага развіцця неалітычных старажытнасцей Заходняй Беларусі (Чарняўскі, 2003, с. 25-33). Аналізуючы класічную для лясного неаліту кераміку з паселішча Дакудава 5, мы, услед за М.М. Чарняўскім, аднеслі яе да прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры (раней дубічайскі тып) і нёманскай неалітычнай культуры (лысагорскі і дабраборскі тыпы).

Керамікі *прыпяцка-нёманскай* культуры знойдзена 276 фрагментаў. Практычна ўсе фрагменты з арганічнымі дамешкамі ў цесце, некаторыя фрагменты акрамя арганікі ўтрымліваюць невялікую колькасць жарствы. Важнай тэхналагічнай асаблівасцю такой керамікі з'яўляецца і выкарыстанне грабеньчатых расчосаў, якія сустракаюцца на ўнутраных паверхнях значнай колькасці фрагментаў. Каля 90 абломкаў керамікі, у тым ліку венчыкаў, маюць арнаментацыю. Для аздаблення найчасцей выкарыстоўваліся разнастайныя адбіткі грабеньчатага штампу, якія маглі спалучацца са скразнымі адтулінамі (пад краем венчыка) (мал. 2:1, 3, 6, 7), пракрэсленыя лініі, якія ўтваралі сеткавую кампазіцыю (мал. 2:2). Посуд мог арнаментавацца не толькі ў верхняй палове, але і па ўсёй паверхні, аб чым сведчаць фрагменты вострых дноў з грабеньчатым (мал. 2:6, 7) і накольчатым (мал. 2:8) арнаментам.

Вастрадонны посуд з раслліннымі дамешкамі ў цесце, з арнаментам у выглядзе грабеньчатых адбіткаў, адступаючых наколаў, пракрэсленых ліній і глыбокіх ямак пад краем венца быў характэрны для днепра-данецкай этнакультурнай супольнасці (Телегин, Титова, 1998, с. 11-14), у якую, па меркаванні М.М. Чарняўскага, уваходзіць і прыпяцка-нёманская культура (Чарняўскі, 2003, с. 29). Нёманскі варыянт гэтай культуры мае свае асаблівасці, а менавіта дамінаванне ў арнаменце адбіткаў грабеньчатага штампа (Чарняўскі, 2003, с. 29), што ўласціва і для ранненеалітычнай керамікі з паселішча Дакудава 5.

***Кераміка нёманскай неапітычнай культуры***

Ца меркаванні М.М. Чарняўскага, у неаліце Заходняй Беларусі на лысагорскім этапе пачалі адбывацца значныя змены. У выніку пэўныя навацыі пры захаванні некаторых ранненеалітычных традыцый і прывялі да фарміравання дабраборскага этапу. Менавіта гэтыя два этапы (лысагорскі і дабраборскі) і склалі ўласна нёманскую культуру (Чарняўскі, 2003, с 29).

На паселішчы Дакудава 5 знойдзена 639 фрагментаў керамікі *нёманскай культуры.* Гэта посуд жоўта-шэрага, цёмна-шэрага колеру з гладкімі ці злёгку заштрыхаванымі паверхнямі. Дамешкі ў цесце - жарства сярэдніх і буйных памераў, на некалькіх фрагментах лысагорскага тыпу мінеральныя дамешкі спалучаюцца з арганічнымі. Венчыкі кароткія, злёгку патоўшчаныя, закругленыя, загнутыя ўнутр (мал. 3:1-3; 4: 1, 4). Посуд пераважна буйных памераў, з дыяметрам па венчыку да 30-36 см. Дны вострыя. Амаль на 100 фрагментах керамікі маецца арнамент. Для аздаблення выкарыстоўваліся разнастайныя элементы: наколы, у тым ліку адступаючыя, ямкі, насечкі, розныя адбіткі лінейнага і сегментападобнага штампа. Напрыклад, на лысагорскім этапе посуд мог упрыгожвацца нерэгулярнымі адбіткамі злёгку выгнутай лапаткі (мал. 3:5-7), пасамі глыбокіх наколаў лапаткай пад краем венчыка і папярочнымі насечкамі на зрэзе (мал. 3:1), пасамі глыбокіх акруглых наколаў і лінейнымі адбіткамі на зрэзе венчыка (мал. 3:2). На дабраборскім этапе посуд упрыгожваўся адступаючымі адбіткамі лапаткі, пракрэсленым сеткавым арнаментам, пракрэсленымі лініямі ў спалучэнні з лінейным арнаментам на зрэзе венчыка, пасамі акруглых наколаў пад краем венчыка (мал. 4:1-4; 5: 1). Напрыклад, вылучаецца часткова рэканструяваная пасудзіна буйных памераў з дыяметрам па венчыку каля 36 см, арнаментаваная пракрэсленымі лініямі, якія ўтвараюць сетку і спалучаюцца з акруглымі глыбокімі наколамі, а таксама з арнаментацыяй зрэзу венчыка (мал. 5:1).

***Кераміка культуры шарападобных амфар***

У сучаснай літаратуры многія даследчыкі ўсё больш увагі звяртаюць на наяўнасць на шэрагу неалітычных помнікаў матэрыялаў культуры шарападобных амфар і на яе ролю ў культурна-гістарычным развіцці насельніцтва Заходняй Беларусі (Крывальцэвіч, 1999, с 21-23; 2004, с. 143-147; Чебрешук, Шмит, 2003, с. 34-38; Лакіза, 2004в, С. 181). У нашым выпадку вельмі важна, што ўпершыню такія керамічныя артэфакты трапіліся ў час раскопак і на правабярэжжы р. Неман. На паселішчы Дакудава 5 знойдзена 25 фрагментаў керамікі з прыкметамі культуры шарападобных амфар (мал. 6:1-6). Гэта ў асноўным невялікіх памераў посуд светла-карычневага, цёмна-шэрага колеру з дамешкамі жарствы, звычайна сярэдніх памераў. На абедзвюх паверхнях сценак таўшчынёй каля 4-5 мм захоўваюцца сляды лёгкай штрыхоўкі. Венчыкі сплошчаныя ці злёгку прыкругленыя, шыйкі кароткія, высокія, лейкападобныя, з плаўным пераходам у тулава. У адным выпадку дыяметр гаршка па венчыку мог складаць каля 8 см (мал. 6:3). Арнаментаваны посуд харак-

тарным для культуры шарападобных амфар лінейным прамавугольным штампам, з якога ўтвараліся гарызантальныя рады з вертыкальных адбіткаў, зігзагі, рады з нахіленых адбіткаў (мал. 6:1-5). Аднак могужывацца і посуд больших памераў. Так, сярод керамікі маюцца 2 фрагменты вушкаў ад адной пасудзіны светла-карычневага колеру з дамешкамі жарствы. Таўшчыня аднаго з іх каля 2 см. На вушку захаваліся сляды арнаментацыі акруглымі адбіткамі полага штампа (мал. 6:6).

***Посуд кола культур шнуравой керамікі***

У апошнія гады В.Л. Лакіза, пасля сістэматызацыі і класіфікацыі старажытнасцей позняга неаліту і бронзавага веку Беларускага Панямоння, прапанаваў новую схему культурна-храналагічнай ідэнтыфікацыі керамічных матэрыялаў (Лакіза, 20046). У шэрагу артыкулаў даследчыкам абгрунтоўваецца вылучэнне ў басейне ракі Нёман некалькіх груп керамікі, кожная з якіх падзяляецца на тыпы (Лакіза, 2004в; 2006). Так, посуд кола культур шнуравой керамікі на Панямонні (група 1) мае не толькі пэўныя тэхналагічныя, марфалагічныя і арнаментальныя асаблівасці, але таксама і значныя рэгіянальныя (лакальныя) адрозненні. Менавіта яны і даюць падставы для падзелу посуду гэтай групы на кераміку тыпу Бершты-Русакова (тып 2) і кераміку падгорнаўскага тыпу (тып 3) (Лакіза, 2006, с 36-37, 49-50).

Керамікі *тыпу Бершты-Русакова* на паселішчы Дакудава 5 знойдзена 298 фрагментаў. Гэта шэрага, светла-шэрага, шэра-карычневага колеру кераміка, заўсёды з мінеральнымі дамешкамі: розных памераў жарствой, пяском. Паверхні гладкія альбо выразна заштрыхаваныя, часам гладкія звонку і заштрыхаваныя ўнутры. У некаторых выпадках выкарыстоўвалася і ангабаванне посуду (мал. 5:2). Таўшчыня сценак ад 5 да 10 мм. На жаль, як і на многіх іншых помніках Панямоння, пераважная большасць керамічнай калекцыі складаецца з моцна фрагментаваных, дробных, пашкоджаных абломкаў сценак ад разнастайных пасудзін, дакладную форму і памеры якіх вельмі складана аднавіць. Венчыкі высокія ці кароткія, са сплошчанымі, прыкругленымі, патончанымі, зрэзанымі ўнутр краямі (мал. 4:6; 5:2, 3;7: 1-3). Дыяметр некаторых з іх мог дасягаць 27-28 см (мал. 5:2). Дны плоскія, без закраін (мал. 9:6-11). Частка керамікі арнаментавана. Для аздаблення выкарыстоўваліся адбіткі разнастайнага лінейнага штампа, шнура, наколы, валікападобныя патаўшчэнні (мал. 4:5-10; 6:7, 8; 9:4). Арнамент наносіўся ў асноўным на верхнюю палову посуду, на шыйку, частку тулава і пад самым венчыкам. Назіраецца і арнаментацыя зрэзаў венчыкаў. Часам арнамент утвараў даволі складаныя матывы з гарызантальных радоў, зігзагаў, утвораных адбіткамі акруглага, сегментападобнага, авальнага штампа, якія, у сваю чаргу, дапаўняліся неглыбокімі ямкамі (мал. 5:3, 4, 5; 7:3). Некаторыя пасудзіны зусім не мелі арнаментацыі (мал. 7:1), альбо мелі толькі некалькі скразных адтулін пад краем венчыка (мал. 5:2).

Аб некаторых формах ляпнога посуду, які выкарыстоўваўся на паселішчы Дакудава 5, даюць ўяўленне часткова адноўленыя пасудзіны. Сярод іх маецца пласкадонны рабрысты гаршчок шэрага колеру з амаль гладкімі паверхнямі і дамешкамі невялікай колькасці рознаэярністай жарствы. Яго дыяметр па венчыку каля 10 см, дыяметр дна 8 см, таўшчыня сценак 4-6 мм (мал. 7:2). У верхняй палове гаршчок арнаментаваны адбіткамі штампа акруглай формы, якія ўтвараюць некалькі гарызантальных паралельных радоў. Яшчэ адна слоікападобная пасудзіна цёмна-шэрага колеру, з дамешкамі сярэдне- і буйназярністай жарствы, з таўшчынёй сценак каля 6 мм, з лёгкай штрыхоўкай знешняй і выразнай косагарызантальнай штрыхоўкай унутранай паверхняў, мела дыяметр па патоўшчанаму і прыкругленаму венчыку каля 27 см (мал. 7:3). Вылучаецца яна і сваім арнаментам, выкананым адбіткамі штампаў акруглай, падавальнай, сегментападобнай форм. Пры спалучэнні такіх

адбіткаў утвораны складаныя матывы з некалькіх гарызантальных радоў і зігзагаў (мал. 7:3). Трэцяя пасудзіна светла-карычневага колеру з невялікай колькасцю мінеральных дамешак і порыстай паверхняй, з дыяметрам па прыкругленаму венчыку каля 28 см, зусім не мела арнаментацыі (мал. 5:3)

Асаблівае значэнне мае цэлы посуд:

1) шэра-карычневага колеру кубак з дамешкамі невялікай колькасці жарствы, выразна заштрыхаванай знешняй і загладжанай унутранай паверхнямі, без арнаментацыі. Край венчыка няроўны, зрэз акрутлы. Вышыня кубка каля 5,4 см, дыяметр венчыка 8,5-9 см, дыяметр дна 6 см (мал. 7:1).

2) светла-шэрага колеру пласкадонны гаршчок (з пахавання) з невялікай колькасцю жарствы, добра загладжанымі паверхнямі, з арнаментацыяй. Край венчыка няроўны, зрэз сплошчаны, амаль гарызантальны. Таўшчыня сценак 6-7 мм, венчыка і дна 8 мм. Вышыня гаршка 11,6-12 см, дыяметр венчыка 12,5 см, максімальны дыяметр тулава 14 см, дыяметр дна 8,5 см. Ён упрыгожаны трыма гарызантальнымі, амаль паралельнымі радамі з разрэджаных адбіткаў падавальнага (кроплепадобнага) штампа (мал. 8).

З прычыны таго, што асноўны арэал керамікі *падгорнаўскага тыпу* (часам для яе выкарыстоўваецца назва - кераміка падгорнаўскага тыпу з рысамі сярэднедняпроўскай культуры) прыпадае на паўднёва-усходняе Панямонне (Лакіза, 2004б, с. 13), то наяўнасць у калекцыі керамікі з паселішча Дакудава 5 нават трох фрагментаў посуду гэтага тыпу дазваляе рабіць пэўныя карэктывы адносна культурнагістарычнага развіцця правабярэжных раёнаў ракі Нёман. Важна пры гэтым, што на згаданаи тэрыторыі Панямоння такія матэрыялы знойдзены ўпершыню. Сярод іх вылучаецца адзін фрагмент венчыка са зрэзаным унутр і арнаментаваным краем, з жарствой, шурпаватымі на вобмацак ад зярнят жарствы паверхнямі і арнаментацыяй у выглядзе заштрыхаваных трохкутнікаў у спалучэнні з гарызантальнымі пасамі лінейных адбіткаў (мал. 9:1). Уяўляе цікавасць і фрагмент плоскага дна з прыдоннай часткай ад пасудзіны з жарствой у цесце і гладкімі паверхнямі, арнаментаваны адбіткамі зубчатага штампа (мал. 9:3).

***Кераміка тшцінецкага кулыпурнага кола***

Сярод керамічных матэрыялаў тшцінецкага культурнага кола Беларускага Панямоння (група 2) В.Л. Лакіза прапанаваў вылучаць два тыпы - кераміку тыпу 1 і тыпу 2 (Лакіза, 20046, с. 8-9; 2004в, с. 183-188). Для тшцінецкай керамікі (група 2) ў цэлым характэрна выкарыстанне ў якасці асноўных дамешак жарствы розных памераў, звычайна сярэдне- і буйназярністай. Паверхні большасці пасудзін старанна апрацаваныя, добра загладжаныя, некаторыя нават да бляску, але частка керамікі ў месцах выхаду зярнят жарствы мае шурпаватыя паверхні і характэрныя трэшчынкі. Венчыкі посуду звычайна патаўшчаліся (злёгку ці моцна), коса альбо гарызантальна зразаліся вонкі, часам набывалі «грыбападобныя» ці закругленыя формы (мал. 10). Дны звычайна тоўстыя, без закраін. Можна гаварыць аб невялікіх (дыяметр венчыка 13-15 см, дна - 8 см) і сярэдніх (дыяметр венчыка 18-24 см, дна 10-11 см) па памерах пасудзінах цюльпанападобнай формы, а таксама аб гаршках буйных памераў (дыяметр венчыка 28-30 см). Ужываліся таксама і друшлякі (сітападобны посуд), якія вылучаюцца сваімі невялікімі памерамі і наяўнасцю вялікай колькасці скразных адтулін. Але самым паказальным для такога посуду з'яўляецца арнамент, на падставе якога, у пераважнай большасці, і праводзіцца канчатковы падзел тшцінецкай керамікі на тыпы.

На паселішчы Дакудава 5 знойдзена 64 фрагменты керамікі тшцінецкага культурнага кола. Яны паходзяць ад посуду светла-шэрага, цёмна-шэрага, шэра-карычневага

колеру з дамешкамі рознаазярністай жарствы і добра загладжанымі, часам ангабаванымі, паверхнямі. Таўшчыня сценак розная - ад 5 да 12 мм. Венчыкі патоўшчаныя, коса зрэзаныя вонкі, з дыяметрам ад 9 да 22 см (мал. 10:1,16). Дны плоскія, тоўстыя. Адзін фрагмент сценкі, пакрыты скразнымі адтулінамі, паходзіць ад друшляка ці сітападобнай пасудзіны (мал. 10:12). Большасць фрагментаў керамікі ўпрыгожана разнастайнымі ружанцовышi адбіткамі, якія кампанаваліся ў гарызантальныя рады, зігзаг, дапаўняліся адбіткамі лінейнага штампа (мал. 10:1-9,16). Акрамя таго, для аздаблення выкарыстоўваліся валікападобныя патаўшчэнні (мал. 10:10, 11), пракрэсленыя лініі (мал, 10:13-15).

Часткова аднаўляюцца верхнія часткі дзвюх пасудзін:

1) невялікіх памераў гаршчок цёмна-шэрага колеру з дамешкамі жарствы і гладкімі сценкамі, таўшчыня якіх 4-5 мм. Венчык патоўшчаны, коса зрэзаны вонкі. Дыяметр па венчыку каля 9 см. Гаршчок упрыгожаны гарызантальнымі паралельнымі радамі з адбіткаў ружанцовага штампа (мал. 10:1).

2) буйная цюльпанападобная пасудзіна цёмна-шэрага колеру з дамешкамі жарствы і гладкімі, ангабаванымі сценкамі таўшчынёй 9-10 мм. Венчык патоўшчаны, коса зрэзаны вонкі. Дыяметр па венчыку каля каля 22 см. Гаршчок упрыгожаны як мінімум 8 паралельнымі радамі з ружанцовых адбіткаў, якія ўнізе дапаўняюцца зігзагападобнымі матывамі, утворанымі тым жа ружанцовым штампам (мал. 10:16).

На сённяшні дзень, з-за шэрагу тэхналагічных і марфалагічных падабенстваў тшцінецкай керамікі з паселішча Дакудава 5 пакуль што складана прывесці канчатковыя статыстычныя дадзеныя па падзелу яе на тыпы. Несумненна, што пераважная большасць з іх адносіцца да керамікі групы 2 тыпу 2, самай важнай асаблівасцю якога з'яўляецца ружанцовая арнаментацыя. Маюцца ў калекцыі і фрагменты керамікі групы 2 тыпу 1, аналогі якім знаходзяцца ў першую чаргу ў заходніх групах тшцінецкага культурнага кола. Асабліва гэта датычыцца фрагментаў ад адной пасудзіны шэра-карычневага колеру, з дамешкамі дробнай і сярэдняй жарствы (спецыфічнага, бліскучага колеру), гладкімі паверхнямі, арнаментаваныя шырокімі пракрэсленымі гарызантальнымі баразёнкамі, якія дапаўняюцца ўнізе вертыкальнымі (мал. 10:15).

***Кераміка позняга перыяду бронзавага веку***

У калекцыі керамікі з паселішча Дакудава 5 прысутнічаюць 20 фрагментаў ад аднаго гаршка, якія, галоўным чынам з-за сваіх тэхналагічных асаблівасцей, можна, па нашаму меркаванню, адносіць да позняга перыяду бронзавага веку. Гэта фрагменты сценак шэра-карычневага (з жаўтаватым адценнем) колеру з дамешкамі значнай колькасці дробна- і сярэднезярністай жарствы, выразнай хаатычна нанесенай (спалучэнні касых, гарызантальных і вертыкальных штрыхоў) штрыхоўкай па знешняй паверхні, са слядамі ангабавання (своеасаблівая мучністасць навобмацак), без арнаменту.

***Высновы***

Такім чынам, у час раскопак на паселішчы Дакудава 5 атрымана даволі значная і рэпрэзентатыўная калекцыя керамікі, якая дазваляе зрабіць шэраг высноў адносна культурна-храналагічнага развіцця помніка на працягу некалькі тысячагоддзяў - ад ранняга неаліту да позняга перыяду бронзавага веку.

Заснаванне паселішча адносіцца да ранняга неаліту і звязваецца з керамікай прыпяцка-нёманскай культуры. Усе ранненеалітычныя фрагменты з Дакудава 5 па ўсіх сваіх прыкметах знаходзяць значнае падабенства сярод іншых керамічных комплексаў з тэрыторыі Заходняй Беларусі: блізкая тэхналогія, заснаваная на выкарыстанні

раслінных дамешак, амаль аднолькавая марфалогія вастрадоннага посуду, падабенства ў арнаментацыі. Як мяркуе М.М. Чарняўскі, такая кераміка магла існаваць і развівацца ў перыяд 4700-3800 гг. да н.э., а, магчыма, і ў яшчэ больш старажытныя часы (Чарняўскі, 2004, с 107).

Працягвалася жыццё на паселішчы Дакудава 5 і на лысагорскім і дабраборскім этапах нёманскай неалітычнай культуры, а мяркуючы па значнай колькасці знойдзеных фрагментаў такой керамікі, яно стала яшчэ больш інтэнсіўным. У цэлым посуд нёманскай культуры па ўсяму свайму арэалу характарызуецца пэўнай аднароднасцю. Не стала выключэннем і паселішча Дакудава 5. Выкарыстанне мінеральных дамешак, лёгкае загладжванне ці штрыхаванне паверхняў, частая прыгнутасць венчыкаў усярэдзіну, вастрадоннасць, нанясенне глыбокіх наколаў і ямак пад краем венчыка, частае выкарыстанне для арнаментацыі тонкіх пракрэсленых ліній - гэта толькі асноўныя прыкметы керамікі нёманскай культуры як з паселішча Дакудава 5, так і з іншых помнікаў Заходняй Беларусі (Чарняўскі, 2001, с. 235-239). Датуюца такія матэрыялы межамі ад 3600 г. да н.э. да другой чвэрці II тысячагоддзя да н.э. (Чарняўскі, 2004, с. 109, 112).

У III тысячагоддзі да н.э ці з 2800-2700 да н.э. мясцовае неалітычнае насельніцтва Беларусі пачынае адчуваць даволі моцнае ўздзеянне з боку носьбітаў культуры шарападобных амфар. Аб гэтым сведчаць шматлікія матэрыялы, якія трапляюцца як у час раскопак розначасовых помнікаў, так і ў працэсе сістэматызацыі і аналіза ўжо існуючых калекцый. Як прыклад гэтаму - кераміка культуры шарападобных амфар з Дакудава 5. Аднак на сённяшні дзень гэтая цікавая і складаная праблема для тэрыторыі Беларусі не вырашана і патрабуе спецыяльнага грунтоўнага даследавання.

У першай палове III тысячагоддзя да н.э. на паселішчы Дакудава 5 з'яўляюцца і матэрыялы кола культур шнуравой керамікі. У выніку доўгатрывалага, складанага працэсу ўзаемадзеянняў мясцовага насельніцтва нёманскай неалітычнай культуры з носьбітамі традыцый кола культур шнуравой керамікі, у тым ліку культуры адзіночных пахаванняў, прыморскай (жуцаўскай) культуры, пры моцным уплыве культуры шарападобных амфар на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўзнікла група помнікаў тыпу Бершты-Русакова (Лакіза, 2004б). У яе арэал, амаль цэнтральную яго частку, уваходзіць і паселішча Дакудава 5. Менавіта таму на помніку і знойдзена даволі значная калекцыя керамікі тыпу Бершты-Русакова. Бліжэйшыя аналогіі такому посуду знаходзяцца ў асяроддзі Цыркумбалтыйскага культурнага кола шнуравой керамікі на тэрыторыі Літвы, Польшчы, Беларусі (Rimantienė, 1999a, p. 14; 1999b, pav. 12:2, 4, 6-11). Датуецца кераміка тыпу Бершты-Русакова з паселішча Дакудава 5 другой чвэрцю III тысячагоддзя да н.э. - першай чвэрцю II тысячагоддзя да н.э. і прадстаўляе, як і кераміка нёманскай культуры, позненеалітычны перыяд у развіцці помніка.

Безумоўна, каштоўнымі для нас з'яўляюцца фрагменты керамікі падгорнаўскага тыпу, асноўны арэал распаўсюджвання якой прыпадае на паўднёва-усходнія рэгіёны Панямоння, а самыя блізкія аналогіі знаходзяцца сярод матэрыялаў прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры і на некаторых помніках Заходняга Палесся. Датуюцца яны перыядам ад пачатку першай чвэрці да сярэдзіны другой чвэрці II тысячагоддзя да н.э. Рашэнне пытання аб іх з'яўленні на правабярэжжы р. Нёман яшчэ наперадзе, пасля далейшых раскопак паселішча Дакудава 5 і новых даследаванняў у гэтым рэгіёне Беларусі.

У першай палове II тысячагоддзя да н.э. у арэал помнікаў тшцінецкага культурнага кола ўвайшла практычна ўся тэрыторыя Беларускага Панямоння, у тым ліку і паселішча Дакудава 5. Асноўная частка керамікі гэтага часу (кераміка групы 2 тыпу 2) знаходзіць найбольшие падабенства сярод матэрыялаў паўночнапалескай

групы ўсходнетшцінецкай культуры. Гэта і амаль аднолькавая тэхналогія, блізкія марфалагічныя адметнасці (Крывальцэвіч, 1999, с 12-13, мал. 27-31), але, самае галоўнае, арнаментацыя - з амаль поўным дамінаваннем разнастайных ружанцовых штампаў. Аднак сустракаюцца аналога і пры параўнанні некаторых фрагментаў керамікі з матэрыяламі мазавецка-падляскай групы тшцінецкай культуры, якая займала тэрыторыю Мазовіі, Падляшша, частку Любельскага Палесся (Dąbrowski, 1997, s. 16-19, rys. 5; Taras, 1995, s. 64-69, rys. V, VI ). А гэта значыць, што на паселішчы Дакудава 5 у розны час пражывала насельніцтва як нёманскай групы, так і верхненёманскай (русаковіцкай) групы тшцінецкага культурнага кола. Дадзены працэс мог адбывацца тут ад сярэдзіны першай чвэрці да канца II тысячагоддзя да н.э.

Менавіта са з'яўленнем помнікаў нёманскай і верхненёманскай (русаковіцкай) груп тшцінецкага культурнага кола на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі пачынаецца бронзавы век (з другой чвэрці II тысячагоддзя да н.э.).

Старажытнасці позняга перыяду бронзавага веку на ўсёй тэрыторыі Беларусі застаюцца пакуль што найменш даследаванымі. Для тэрыторыі Беларускага Панямоння вядомы толькі некалькі помнікаў, на якіх сярод пераважнай большасці іншых матэрыялаў сустракаецца і своеасаблівая кераміка, умоўна аднесеная да познебронзавага часу. У іх шэраг уключаецца і паселішча Дакудава 5.

### *Літаратура*


1. **Крывальцэвіч, М.М.** Азярное 1 - пасяленне эпохі бронзы на поўначы Палесся / МАБ. Вып. 2. 1999.

2. **Крывальцэвіч, М.М.** Беларускае Палессе ў перыяд пераходу ад неаліту да эпохі бронзы: праблемы і перспектывы археалагічнага вывучэння // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004. С. 137-162.

3. **Лакіза,** В.Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Панямонні ў 1998 годзе / АА ІГ НАН Беларусі. Спр. № 1733. Мн., 1998.

4. **Лакіза, В.Л.** Справаздача аб археалагічных работах на Панямонні ў 1999 годзе / АА ІГ НАН Беларусь Спр. № 1795. Мн., 1999.

5. **Лакіза, В.Л.** Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Беларускім Панямонні ў 2004 г. / АА ІГ НАН Беларусі. Спр. № 2166. Мн., 2004а.

6. **Лакіза, В.Л.** Культурна-храналагічная ідэнтыфікацыя старажытнасцей ранняга і сярэдняга перыядаў бронзавага веку Беларускага Панямоння: Аўтарэферат дыс.... канд. гіст. навук: 07.00.06. Мн., 2004б.

7. **Лакіза, В.Л.** Позні неаліт, ранні і сярэдні перыяды бронзавага веку Паўночна-Заходняй Беларусі. Стан і перспектывы даследаванняў // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004в. С. 163-196.

8. **Лакіза, В.Л.** Даследаванне паселішча каменнага і бронзавага вякоў Дакудава 5, р. Неман, Лідскі раён, Гродзенская вобласць // ГАЗ. № 20. 2005. С. 223-224.

9. **Лакіза, В.Л.** Кераміка позняга неаліту і бронзавага веку з паселішча Добры Бор 1 у зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі // Археалагічны зборнік. Вып. 1. Мн., 2006. С. 35-51.

10. **Лакіза, В.Л., Сідаровіч, В.М.** Каменны і бронзавы век. Весткі з экспедыцый беларускіх археолагаў (сезон 1998 г.) // БГА. Т. 5. Сш. 2 (9). 1998. С. 581-582.

11. **Сідаровіч, В.М.** Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях у 1998 г. / АА ІГ НАН Беларусі. Спр. № 1766. Мн., 1998.

12. **Телегин, Д.Я., Титова, Е.Н.** Поселения днепро-донецкой этнокультурной общности эпохи неолита. Киев, 1998.

13. **Чарняўскі, М.М.** Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979.

14. **Чарняўскі, М.М.** Неаліт з грабеньчата-накольчатай і накольчатай керамікай Заходняй Беларусь Асаблівасці эвалюцыі // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w Międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001. C 231-240.

15. **Чарняўскі, М.М.** Да пытання вылучэння прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры // ГАЗ. № 18. 2003. С. 25-33.

16. **Чарняўскі, М.М.** Неаліт Беларусі: праблемы перыядызацыі і храналогіі // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004. C. 99-118.

17. **Чебрешук, Я., Шмит, М.** К исследованию среднеевропейских факторов процесса культурных перемен в лесной зоне Восточной Европы в III тыс. до н.э. // ГАЗ. №18. 2003. С. 34-51.

18. **Dąbrowski, J.** Epoka brązu w Północno-Wschodniej Polsce. Białystok, 1997.

19. **Taras, H.** Kultura tszciniecka w międzyrzeczu Wisły, Bugu i Sanu. Lublin, 1995.

20. **Rimantiene, R.** Margiu 1-oji gyvenviete // LA. T. 16.1999a. P. 109-170.

21. **Rimantiene, R.** Pelesos paeierių akmens amžiaus stovyklos ir gyvenvietes // LA. T. 16. 1999b. P. 79-107.

*Vadzim Lakiza, Vital Sidarovitch*

**Neolithic and Bronze Age Pottery from the Settlement Dakudava 5 (Excavations of 1998,1999 and 2004 Years)**

The article presents review of the Neolithic and Bronze Age pottery revealed in the course of excavations on the settlement Dakudava 5 on the right bank of the Neman river in Lida district, Grodna region. The site within the area of 172 sq m was investigated earlier in 1998, 1999 and 2004. There were found 2532 fragments of pottery (including 2412 hand-made examples and 120 wheeled) and 2 intact hand-made pots. The examples of hand-made pottery are presented by 276 fragments of Prypiats-Neman Culture of the Early Neolithic (fig. 2), 639 fragments of Neman Neolithic Culture (fig. 3; 4:1-4; 5:1), 25 fragments of the Globular Amphora culture (fig. 6:1-6), 301 fragments of the Corded Ware Cultures Circle (pottery of the Bershty-Rusakova and the Padgornae type) (fig. 7-9), 64 fragments of Trzciniec Cultures Circle (pottery of the gr. 2 type 1 and the gr. 2 type 2 (fig. 10)), 26 fragments of the Late Bronze Age.




*Мал. 1. Лакалізацыя паселішча Дакудава 5 на правабярэжжы р. Нёман. Сітуацыйны план помніка з межамі раскопаў 1998, 1999 і 2004 гадоў*




*Мал. 2. Дакудава 5. Кераміка прыпяцка-нёманскай ранненеалітычнай культуры*




*Мал. 3. Дакудава 5. Кераміка лысагорскага тыпу нёманскай неалітычнай культуры*




*Мал. 4. Дакудава 5: 1-4 - кераміка дабраборскага тыпу нёманскай неалітычнай культуры, 5-10 - кераміка тыпу Берштэы-Русакова*




*Мал. 5. Дакудава 5:1 - часткова рэканструяваны посуд дабраборскага тыпу нёманскай неалітычнай культуры; 2-5 - посуд тыпу Бершты-Русакова*




*Мал. 6. Дакудава 5:1-6 - кераміка з прыкметамі культуры шарападобных амфар, 7-9 - кераміка тыпу Берииты-Русакова*




*Мал. 7. Дакудава 5:1-3 - кераміка тыпу Берішты-Русакова*



*Мал. 8. Дакудава 5. Гаршчок з пахавання кола культур шнуравой керамікі*




*Мал. 9. Дакудава 5. Посуд кола культур шнуравой керамікі: 1-3 - кераміка падгорнаўскай групы і прыкметамі сярэднедняпроўскай культуры; 4-5 - тыпу Бершты-Русакова; 6-11 - фрагменты плоскіх дноў*




*Мал. 10. Дакудава 5. Кераміка тшцінецкага культурнага кола*

*Максім Чарняўскі*

# КАСЦЯНЫЯ І РАГАВЫЯ ВЫРАБЫ СТАЯНАК КРЫВІНА 1 І КРЫВІНА 2

Крывінскі тарфянік, што размешчаны на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў Віцебскай вобласці, утрымлівае найбольш даследаваны ў Беларусі комплекс тарфяніковых стаянак неаліту - бронзавага веку, адной з адметнасцяў якіх з'яўляецца добрая захаванасць арганічных артэфактаў у культурным пласце. Калекцыя касцяных і рагавых вырабаў, выяўленая падчас вывучэння гэтых помнікаў, налічвае больш як 1000 адзінак і з'яўляецца адной з найбольш шматлікіх і разнастайных не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсёй Усходняй Еўропе (Чарняўскі, 2005, с 1).

Умоўна рэгіён можна падзяліць на дзве часткі - паўночную, да якой належаць стаянкі Асавец 2, 3,4, 5,6, 7, і паўднёвую, дзе размешчаны стаянкі Крывіна 1,2,3. Матэрыялы помнікаў паўночнай часткі, у тым ліку і вырабы з косткі і рогу, прааналізаваны ў навуковай літаратуры больш падрабязна, чым гэта ёсць з помнікамі паўднёвай (за выключэннем стаянкі Крывіна 3 (Зайкоўскі, 1980, 1982)). Асноўныя даследчыкі (К.М. Палікарповіч, П.А. Прыбыткін, Я.Г. Краскоўская) не паспелі за час сваёй працы ў археалогіі іх апублікаваць. Сёння касцяныя і рагавыя артэфакты з гэтых помнікаў захоўваюцца пераважна ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусь Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

Стаянка Крывіна 1, размешчаная за 0,8 км на паўночны захад ад вёскі Галоўск, даследуецца з 30-х гадоў мінулага стагоддзя. На сённяшні дзень на ей ускрыта больш за 525 кв. м, з іх 516 кв. м да 1963 г. уключна (Чарняўскі, 2006, с 23). Помнік датуецца сярэдзінай III тыс. да н.э. - першай паловай II тыс. да н.э., яго археалагічны матэрыял адносіцца да усвяцкай і пераважна паўночнабеларускай культур (Чарняўскі, 1997а, с. 202; Чарняўскі, 1997б, с. 314). Для ніжняга пласта стаянкі атрыманая дата па 14С 4270140 bр (Gr-5125 (Чернявский, 2004, с. 152)).

Касцяныя і рагавыя вырабы налічваюць 168 экземпляраў, якія адносяцца да 15 класаў прылад. Аднак трэба адзначыць, што даваенная калекцыя вырабаў гэтага віду прадстаўлена толькі адным рагавым наканечнікам стралы. Месцазнаходжанне астатніх артэфактаў, гэтаксама як і палявых дзённікаў К.М. Палікарповіча, яго даваенных калекцыйных вопісаў, на жаль, сёння невядомае (Чарняўскі, 2006, с. 22, 23).

Усе артэфакты належаць да трох катэгорый: 1) прылады палявання і рыбацтва; 2) прылады працы і побыту; 3) мастацкія і культавыя вырабы, музычныя інструменты.

*Катэгорыя прылад палявання і рыбацтва* налічвае 43 вырабы - наканечнікі стрэл, наканечнікі гарпуноў, наканечнікі дзід, кінжалы, кручкі рыбацкія.

Выяўленыя наканечнікі стрэл адносяцца да 6 групаў: верацёнападобныя чаранковыя, біканічныя чаранковыя, са сплюшчаным корпусам і пазначанымі чаранкамі, складанай формы чаранковыя з выразна пазначанымі корпусам і галоўкай, кулепадобныя, іголкападобныя. 14 артэфактаў гэтага класа прадстаўлены фрагментамі, 2 - нарыхтоўкамі. Усе вырабы, за выключэннем аднаго рагавога біканічнага чаранковага наканечніка (мал. 1:10), выраблены з косткі.

Група верацёнападобных чаранковых наканечнікаў стрэл з акруглым сячэннем корпуса налічвае 6 экземпляраў. Сярод іх вылучаюцца вырабы з біканічным выцягнутым корпусам (мал. 1:1-3) і з цыліндрычным корпусам (мал. 1:4, 5). Верагодна, да гэтай жа групы трэба аднесці наканечнік з адламаным чаранком (мал. 1:16).

Нешматлікія аналогі верацёнападобным вырабам выяўлены ў Латвіі (Лубанская нізіна), Эстоніі і Паўночна-Заходняй Расіі (Vankina, 1999, fig. LXXXVII:17, 26, LXXXIX:3-6; Лозе, 1979, таб. XXVII:l-3; Jaanits, 1984, abb. 4:11, 12; Микляев, 1969, рис. 5:3, 4). На Крывінскім тарфяніку наканечнікі стрэл гэтай групы знойдзены на стаянках Асавец 2, Асавец 7, Крывіна 3 (Чарняўскі, 1997б, мал. 119:1, 2; Чарняўскі, 2006, мал. 1:13).

Біканічныя чаранковыя наканечнікі стрэл з акруглым сячэннем корпуса і пазначаным пераходам да вастрыя налічваюць 6 экземпляраў. У пераважнай большасці артэфактаў вастрыё па даўжыні прыблізна роўнае корпусу, толькі ў адным выпадку яно даўжэйшае (мал. 1:8-12).

Вырабы гэтай групы з'яўляюцца вельмі распаўсюджанымі ў часе і прасторы, найбольш блізкія крывінскім артэфактам аналогіі паходзяць з Лубанскага рэгіёна ў Латвіі (Лозе, 1988, табл. XIV:1, 3, 5, 6). На Крывінскім тарфяніку дадзеныя наканечнікі стрэл выяўлены на стаянцы Асавец 2 (Чарняўскі, 1997б, мал. 119:6).

Наканечнікі стрэл са сплюшчаным корпусам і пазначанымі чаранкамі маюцца ў двух экземплярах. Адзін з іх пераймае формы верацёнападобных чаранковых (мал. 1:6), а другі - бутэлькападобных з выразным звужэннем-перахопам на тулаве (мал. 1:7).

Аналогіі наканечнікам гэтай групы сустракаюцца на стаянках Лубанскай нізіны і зборах з водмеляў возера Лубана (Vankina, 1999, fig. LXXVI:35-38; Лозе, 1979, таб. XXVII:4, 5, 7, 10, 13). У Крывінскім рэгіёне яны прысутнічаюць у матэрыялах стаянак Асавец 2 і Асавец 7 (Чарняўскі, 2006, мал. 1:12).

Наканечнікі стрэл складанай формы (чаранковыя з выразна пазначанымі галоўкай і корпусам) прадстаўлены адным пашкоджаным экземплярам, абламаным пасярэдзіне корпуса (мал. 1:18).

Аналогі вырабам гэтай групы сустракаюцца на стаянках Асавец 2 і Зацэнне ў Беларусі, Абара 1 ў Латвіі (Чарняўскі, 1996, мал.5:5; Чарняўскі, 1997б, мал. 119:4, 5; Лозе, 1979, таб. XXVII: 13).

Кулепадобныя наканечнікі стрэл са слаба пазначанымі чаранкамі маюцца ў двух экземплярах. Адзін з іх амаль удвая больны за другі, аднак чаранковая частка ў яго займае менш за 1/4 даўжыні (мал. 1:14), у той час як у карацейшага наканечніка яна складае 1/2 даўжыні (мал. 1:15).

Найбольш блізкія гэтым вырабам аналогі паходзяць з неалітычнай стаянкі Жамайцішке 1 ў Літве (Naujausia..., 1980, pav. 19:7).

Іголкападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл прадстаўлены адным экземплярам пікападобнай формы з рэзкім звужэннем да вастрыя на канцы прылады (мал. 1:13).

Падобныя вырабы сустракаюцца ў Беларусі на стаянках Асавец 2 (Чарняўскі, 19976, мал. 119:11, 12), Азярное 2Б (з насадамі акруглага сячэння (Крывальцэвіч, 1996, мал. 2:1, 2)), у Латвіі на помніках Лубанскай нізіны (Загорска, 1991, рис. 2:24, 31; Lože, 1983, pav. 2:8), Эстоніі на стаянцы Тамула (Jaanits, 1984, abb. 4:1, 2).

Трэба адзначыць, што на помніку Крывіна 1 не выяўлена класічных для рэгіёна бутэлькападобных наканечнікаў стрэл (Чарняўскі, 2005, с. 15). Хаця некаторыя верацёнападобныя чаранковыя вырабы маюць ледзь-ледзь афармленае звужэнне-перахоп у прычаранковай частцы корпуса (мал. 1:4). Да гэтай жа групы можа адносіцца і абломак корпуса наканечніка з часткай чаранка (мал. 1:20).

Наканечнікі гарпуноў прадстаўлены адным пашкоджаным вырабам, двума фрагментамі насадаў і адным верагодным фрагментам вастрыя (мал. 2:2, 4). Усе артэфакты выраблены з косткі. Пашкоджаны выраб мае адзін зубец, які пачынаецца ад самага вастрыя і заканчваецца прыблізна пасярэдзіне корпуса. Насад

аформлены з дапамогай двух супрацьлеглых выступаў, у выніку чаго ён набыў крыжападобную форму.

Падобныя наканечнікі гарпуноў распаўсюджаны даволі шырока і сустракаюцца ў Эстоніі (Янитс, 1991, рис. 4:8), Літве (Римантене, 1991, рис. 1:22), Латвіі (Vankina, 1999, VII:1, 4, 5, 7, 10); Кастрамскім Паволжы (Гаврилова, 1991, рис. 1:10, 11), Кольскім паўвостраве (Гурина, 1991б, рис. 9:1-3, 6, 7, 9, 17).

Кінжалы прадстаўлены трыма фрагментамі - заканчэннямі вастрый вырабаў з лакцявых костак буйных рагатых жывёл (мал. 2:5-7). Такія формы прылад вядомыя на Крывінскім тарфяніку, у Прыбалтыцы і на заходнім узбярэжжы Балтыйскага мора, дзе яны былі распаўсюджаны ад мезаліту да сярэдняга і позняга неаліту (Чарняўскі, 1997б, с 317; Гирининкас, 1990, рис. 28:1; Лозе, 1979, табл. XXX:6, 7, 8; Лозе, 1988, табл. IV:4, XI:13, XVI:7; Ilkiewicz, 1989, rys. 10:1).

На сённяшні дзень на помніку не вядомыя класічныя для рэгіёна наканечнікі дзід. Тым не менш два касцяныя артэфакты могуць быць аднесены да гэтага класа прыладаў - верагодны фрагмент нарыхтоўкі і магчымы завершаны выраб (мал. 2:1).

Таксама не было выяўлена і закончаных кручкоў рыбацкіх. Адзіны артэфакт, які набліжаецца да вырабаў гэтага класа, уяўляе сабой фрагмент ножкі са сценкі трубчастай косткі з выемкай для мацавання лескі (мал. 2:3).

Да *катэгорыі прылад працы і побыту* адносяцца 48 артэфактаў - сякеры, далоты, праколкі, «рыбныя нажы», адціскальнікі, рэтушоры, арнаменціры.

Клас сякер налічвае 12 артэфактаў. Цэлыя экземпляры прадстаўлены вырабамі са шчапаных рагоў - з пашыраным лязом (мал. 3: 2, 4) і падпрамакутнымі ў плане (мал. 3: 3). Адна сякера выраблена з цэлага злёгку выгнутага адростка рога (мал. 3: 1).

Аналогій вырабам са шчапаных рагоў вельмі шмат: у Беларусі на помніках Азярное 2Б (Крывальцэвіч, 1996, мал. 5:1), Камень 8 (Ісаенка, Чарняўскі, 1997, рис. 26:8), на Смаргонскім кар'еры (Чарняўскі, 1972, мал. 1:8), у Літве на паселішчах Кратуонас, Ламасмягі, Паланга, Жамайцішке, асабліва многа іх у раннім і сярэднім неаліце Эстоніі і Латвіі - паселішчы Кяэпа, Звійсала, Шесціня, (Гирининкас, 1990, с. 63, 64, рис. 71Б, 72; Лозе, 1979, табл. XXXШ:2, 3), на Украіне (Археологія..., 1971, рис. 64:15). Адзінкавыя аналогі сякеры з цэлага выгнутага рога вядомыя ў Беларусі на стаянцы Зацэнне (Чарняўскі, 1996, мал. 6:9), Азярное 2Б (Крывальцэвіч, 1996, мал. 5:8), сярод матэрыялаў Смаргонскага кар'ера (Чарняўскі, 1972, мал. 1:5), у Прыбалтыцы на стаянцы Нарва 2 (Гурина, 1967, рис. 24) і на Поўначы Еўрапейскай часткі Расіі (Вярэцце) (Фосс, 1941, табл. IV:1). Усе групы сякер шырока прадстаўлены ў матэрыялах іншых стаянак Крывінскага тарфяніка - Асавец 2, 7, Крывіна 3 (Чарняўскі, 1997б, с 318; Чарняўскі, 2003, мал. 10:3).

Да далотаў адносяцца 6 артэфактаў - 5 цэлых вырабаў і адзін фрагмент. Гэты клас прыладаў прадстаўлены дзвюма групамі. Да першай адносяцца вырабы са шчапаных трубчастых костак са звуж'аным вастрыём (мал. 3:7, 6), да другой - кінжалападобныя вырабы з лакцявых костак буйных жывёл (мал. 3:5). У адрозненне ад кінжалаў апошнія маюць прыкруглена-сплюшчанае завяршэнне вастрыя і моцна збітую абушковую частку.

Далоты са звужаным вастрыём маюць шырокія аналога ў Прыбалтыцы (Jaanits, 1984, abb. 6: 15-17). Вырабу з лакцявой косткі прамых адпаведнікаў выявіць не ўдалося, аднак далоты, у якіх ролю ўдарнай пляцоўкі выконваў захаваны эпіфіз, сустракаюцца зноў жа ў Прыбалтыцы (Лозе, 1979, с. 75, таб. XXX: 1), цэнтральнай Беларусі (Чарняўскі, 1997б, с. 309, мал. 112: 3, 5) і ў паўднёва-ўсходняй Польшчы (4160±50 BP) (Włodarczak, 2001, fig. 13). Падобныя вырабы маюцца на іншых стаянках Крывінскага тарфяніка - Асавец 2 і Асавец 7 (Чарняўскі, 1997б, мал. 121:9).

Праколкі прадстаўлены 16 экземплярамі, з іх 3 фрагментамі. Гэта вырабы са шчапаных трубчастых костак (мал. 4:1-3) і з грыфельных костак з захаванымі дыяфізамі (мал. 4:4). Дадзеныя формы праколак з'яўляюцца універсальнымі і шырока распаўсюджанымі ў часе і прасторы. Аналогіі вырабам стаянкі Крывіна 1 можна сустрэць на ўсіх помніках Крывінскага тарфяніка (Чарняўскі, 1997б, с 317, 318) у Эстоніі (Янитс, 1959, рис. 35:7), Латвіі (Лозе, 1979, таб. XXXII:2, 4, 5, 7, 8, 10), Літве (Римантене, 1971, pav. 35:2, 5), Расіі, Польшчы (Жилин, 2001, рис. 49; Szmyt, 2001, fig. 18A:15, fig. 20:4), Украіне (Археологія..., 1971, рис 64:14, 52:10).

«Рыбныя нажы», выраблены са шчапаных іклаў дзікоў, выяўлены ў 6 экземплярах. Гэта пераважна выцягнутыя прылады з афармленай з аднаго боку больш ці менш выразнай увагнутай паўкруглай працоўнай пляцоўкай і завостранымі пад лёзы адной ці дзвюма бакавінамі (мал. 4:5, 6).

Вырабы гэтага класа на стаянках Крывінскага тарфяніка прадстаўлены даволі шматлікай калекцыяй (Чарняўскі, 2005, с 9). Аналогіі рыбным нажам вядомыя ў Латвіі (Лозе, 1979, таб. XXXV: 2-6, 10), Літве (Rimantienė, 19966, pav. 51:10, 11), Польшчы (Szmyt, 1996, fig. 18A:12, fig. 25:1, 2), Расіі - Верхняе Паволжа (Гурина, Крайнов, 1996, рис. 56:50), у паўднёвай Беларусі (Крывальцэвіч, 1996, мал. 6:5; Исаенко, 1976, рис. 26:5).

На помніку знойдзены два касцяныя адціскальнікі са звужанай працоўнай пляцоўкай (мал. 4:8), а таксама тры рэтушоры са шчапаных фрагментаў костак, з мінімальнай апрацоўкай і зношанымі ад выкарыстання працоўнымі пляцоўкамі (мал. 4:7).

Арнаменціры выяўлены ў трох экземплярах. Яны выраблены са сценак трубчастых костак і прызначаны для пакідання акруглых ямкавых або «семкавых» адбіткаў (мал. 4:9, 10).

Для апошніх трох класаў прамых аналогій па-за межамі Крывінскага тарфяніка знойдзена не было па прычыне слабой апублікаванасці падобных вырабаў.

*Катэгорыя мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў* прадстаўлена падвескамі, пацеркамі і жалейкамі з косткі.

Усяго вядома 10 падвесак і іх фрагментаў, з якіх два артэфакты адносяцца да ключападобных вырабаў (мал. 5:7), адзін змайстраваны з зуба жывёлы з прасвідраванай адтулінай, два маюць падавальна-папярочную, блізкую да гірападобнай форму з адтулінай у верхняй частцы (мал. 5:8,9), чатыры фрагменты з «хвалістымі» насечкамі на гранях могуць належаць геаметрычным вырабам тыпу лунніц (С-падобнай формы) (мал. 5:2-5), адзін выраб адносіцца да зааморфных падвесак (мал. 5:1).

Ключападобныя падвескі з'яўляюцца унікальным крывінскім тыпам упрыгожанняў з косткі і рогу, якія не маюць прамых аналогій сярод касцяных і рагавых матэрыялаў суседніх рэгіёнаў (Чарняўскі, Чарняўскі, 2004, с 28).

Падвескі са свідраваных зубоў жывёлы сустракаюцца ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе на многіх помніках ад мезаліту да бронзавага веку: у Літве (Butrimas, 1996, pav. 21:2; Rimantienė, 1996, pav. 51:1-4,6-9), Латвіі (Ванкина, 1970, табл. XXV:8-14; Лозе, 1988, табл. X:8), Польшчы (Gumiński, 2001, rys. 11:p, q, r, s), Расіі (Гурина, 1997, мал. 62:9; Крайнов, 1972, с. 91, рис. 37), на поўдні Беларусі (Крывальцэвіч, 1996, мал. 6:4,6).

Падвескі з формамі, блізкімі да гірападобных, сустракаюцца ў Латвіі на помніках Лубанскай нізіны (Лозе, 1979, с 76, таб. XXXIV:2, 3), у Літве на паселішчы Жамайцішке (Naujausia..., 1980, pav. 23:10,12), у Расіі на Верхнім Прыдонні (Синюк, Клоков, 2000, рис. 100:3-9). Падобны выраб выяўлены на тэрыторыі Беларусі на стаянцы Грыўковічы 1 (Іоў, Крывальцэвіч, 1999, мал. 3:12).

Геаметрычныя падвескі-лунніцы С-падобнай формы маюць прамыя аналогі ў Латвіі ў Лубанскай нізіне (Лозе, 1979, таб. XXXIV:1, 6-15, 19, 20). Падобныя

вырабы былі выяўлены таксама ў Верхнім Паволжы на могільніках фацьянаўскай культуры, а таксама на Куршскай касе, у Польшчы і ФРГ (Крайнов, 1972, с. 89, рис. 35:3). Падвескі С-падобнай формы без свідравіны выкарыстоўваліся і ў воласаўскай культуры на Верхнім Паволжы, а таксама ў раёне ракі Ака (Крайнов, 1987, рис. 6:14).

Пацеркі прадстаўлены адным незаконченым вырабам і адной нарыхтоўкай з дробнай птушынай косткі з захаваным эпіфізам (мал. 5:11).

Фрагмент жалейкі мае адзін захаваны канец з авальнай адтулінай пад самым краем (мал. 5:10). Аблом ніжэй па корпусе няроўны. Даўжыня 56 мм, памеры сячэння на цэлым краі - 12 на 10 мм.

Аналоги жалейцы маюцца на стаянках Крывінскага тарфяніка (Асавец 2, 7 (Чарняўскі, 1997б, мал. 129:13)), на Пскоўшчыне ў Расіі, дзе яны ўвязваюцца з ранненеалітычнай культурай у стылі лінейна-стужкавай керамікі (сярэдзіна V тыс. да н.э.) (Древности..., 1995, с. 40, кат. 89), на гарадзішчах жалезнага веку Літвы (Volkaite-Kulikauskiene, 1986, pav. 40).

64 касцяныя і рагавыя артэфакты з помніка Крывіна 1 прадстаўлены нарыхтоўкамі і фрагментамі вырабаў невядомага прызначэння.

Стаянка Крывіна 2 размешчана за 100 м на поўнач ад стаянкі Крывіна 1 на ўсходнім краі выспы Ворлева па левым беразе р. Крывінка (мал. 1:12). Даследавана 80 кв. м. Культурны пласт дасягае 0,4 м у глыбіню (Чарняўскі, 1997б, с 314). Існаванне помніка звязана з насельніцтвам нарвенскай і паўночнабеларускай культур. Па аналогіі са стаянкай Крывіна 1 помнік датуецца сярэдзінай III - першай паловай II тыс. да н.э (Зайкоўскі, 1982, с 88; Чарняўскі, 1997б, с 314).

На помніку выяўлена 5 касцяных і рагавых вырабаў: наканечнік стралы, праколка з абламаным вастрыём, два абломкі ад прыладаў невядомага прызначэння і нарыхтоўка, верагодна, наканечніка стралы. 3 усяго гэтага матэрыялу ўяўляе сабой цікавасць «шыгіроідны» наканечнік стралы. Ён мае выцягнутую форму, акруглае сячэнне корпуса, насада і конусападобнай галоўкі (мал. 1:22). Пераход ад апошняй да корпуса дастаткова рэзкі, пазначаны трыма кальцавымі нарэзкамі. Даўжыня вырабу магла дасягаць 12 см. На жаль, пры наяўнасці агульных рысаў з класічнымі «шыгірскімі» наканечнікамі, блізкіх аналогій пакуль выявіць не ўдалося.

Калекцыя касцяных і рагавых вырабаў стаянак Крывіна 1, 2 на фоне ўсяго матэрыялу крывінскага рэгёна ніякімі адметнасцямі не выдзяляецца. Наканечнікі стрэл і гарпуноў, найболын выразныя прылады для культурнага і храналагічнага вызначэння, адносяцца да найбольш распаўсюджаных на тарфяніку формаў (Чарняўскі, 2005, с 12, 14). Выключэнне складаюць толькі біканічны «шыгіроідны» са стаянкі Крывіна 2 і кулепадобныя наканечнікі стрэл з Крывіны 1. Вырабы ўсіх астатніх класаў, у тым ліку і катэгорыі мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў цалкам адпавядаюць распаўсюджаным у рэгёне ў канцы неаліту - бронзавым веку шаблонам. Пераважная большасць іх належыць паўночнабеларускай культуры.

Трэба адзначыць той факт, што стаянкі Крывіна 1 і 2, не гледзячы на значныя аб'ёмы даследавання (525 кв. м для Крывіны 1 і 80 кв.м для Крывіны 2), маюць дастаткова малую колькасць касцяных і рагавых артэфактаў у матэрыяле. На помніку Асавец 2 на 319 кв. м. вядома больш за 750, а на Асаўцы 7 (56 кв. м) амаль 200 артэфактаў. Верагодна, наяўнасць 173 вырабаў са стаянак Крывіна 1 і Крывіна 2 абумоўлена пэўнай спецыфікай даследавання, недасканала распрацаванай яшчэ на той час методыкай вывучэння тарфяніковых паселішчаў, аналізу і захавання арганічных матэрыялаў. Разам з тым гэта дазваляе ў перспектыве спадзявацца на больш багатыя і цікавыя матэрыялы пры даследаванні гэтых помнікаў.

### *Літаратура*

1. Археологія Украінськоі РСР. Т. 1. Киів, 1971.

2. **Ванкина, Л.В.** Торфяниковая стояка Сарнате. Рига, 1970.

3. **Гаврилова, И.В.** Орудия рыболовства древних поселений Костромского Поволжья // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита - раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Л., 1991. - С. 153-163.

4. **Гирининкас, А.** Крятуонас. Средний и поздний неолит. Монография // LA. № 7. 1990.

5. **Гурина, Н.Н.** Из истории древних племён западных областей СССР / МИА. 1967. № 144.

6. **Гурина, Н.Н.** Рыболовство и морской промысел на Кольском полуострове // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита - раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы'. Л., 1991. С. 164-181.

7. **Гурина, Н.Н., Крайнов, Д.А.** Льяловская культура // Археология. Неолит Северной Евразии. М,, 1996. С. 173-179.

8. **Гурина, Н.Н.** История культуры древнего населения Кольского полуострова. СПб., 1997.

9. **Жилин, М.Г.** Костяная индустрия мезолита лесной зоны Восточной Европы. М., 2001.

10. **Загорска, И.А.** Рыболовство и морской промысел в каменном веке // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита - раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Л., 1991. С. 39-64.

11. **Зайкоўскі,** Э.М. Паселішча на Крывінскім тарфяніку // ПГКБ. № 1. 1980.

12. **Зайкоўскі, Э.М.** Новае паселішча паўночнабеларускай культуры // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. № 5. 1982. С. 82-88.

13. **Іоў, А.В., Крывальцэвіч, М.М.** Новыя паселішчы неалітычнага перыяду і эпохі бронзы ў нізоўях ракі Стыр // ГАЗ. № 14. 1999. С. 54-60.

14. **Ісаенка, У.Ф., Чарняўскі, М.М.** Нёманская культура // Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мн., 1997. С. 145-169.

15. **Исаенко, В.Ф.** Неолит Припятского Полесья. Мн., 1976.

16. **Крайнов, Д.А.** Древнейшая история Волго-Окского междуречья. Фатьяновская культура. II тысячелетие до н.э. М., 1972.

17. **Крайнов, Д.А.** Фатьяновская культура. Ярославское Поволжье / САИ. Вып. В1-22.М., 1987.

18. **Крывальцэвіч, М.М.** Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра // З глыбі вякоў. Наш край. Вып. **1.** Мн., 1996. С. 147-168.

19. **Лозе, И.А.** Поздний неолит и ранняя бронза Лубанской равнины. Рига, 1979.

20. **Лозе,** И.А. Поселения каменного века Лубанской низины. Мезолит, ранний и средний неолит. Рига, 1988.

21. **Микляев, А.М.** Памятники Усвятского микрорайона. Псковская область // АСГЭ. Вып. 11. 1969. С. 18-40.

22. **Римантене,** Р.К. Палеолит и мезолит Литвы. Вильнюс, 1971.

23. **Римантене,** Р.К. Озерное рыболовство и морская охота в каменном веке Литвы // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита - раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Л., 1991. С. 65-86.

24. **Синюк, А.Т., Клоков, А.Ю.** Поселение Липецкое озеро. Липецк, 2000.

25. Фосс, М.Е. Костяные и деревянные изделия стоянки Веретье // Палеолит и неолит СССР / МИА. № 2. 1941. С. 212-235.

26. **Чарняўскі, М.М., Каліноўскі, П.Ф.** Рагавыя прылады працы са смаргонскага месцазнаходжання // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 26-32.

27. **Чарняўскі, М.** Тарфяніковая стаянка Зацэнне // З глыбі вякоў. Наш край. Вып. 1. Мн., 1996. С. 132-147.

28. **Чарняўскі, М.М.** Нарвенская культура. // Археалогія Беларусь Т. І. Каменны і бронзавы вякі. Мн., 1997. С. 190-205.

29. **Чарняўскі, М.М.** Паўночнабеларуская культура. // Археалогія Беларусь Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мн., 1997. С. 311-329.

30. **Чарняўскі, Максім М.** Першыя вынікі даследавання тарфяніковай стаянкі Асавец-7 // МАБ. № 6. 2003. С 70-84.

31. **Чарняўскі, Максім М.** Касцяная і рагавая індустрыя стаянак Крывінскага тарфяніка (неаліт-бронзавы век). Аўтарэф. дыс.... канд. гіст. навук: 07.00.06. Мн., 2005.

32. **Чарняўскі, М.М., Чарняўскі, Максім М.** Унікальны тып рагавых і касцяных падвесак-амулетаў са стаянак Крывінскага тарфяніку // ГАЗ. № 19. 2004. С. 28-30.

33. **Чарняўскі, Максім М.** Шосты сезон даследавання тарфяніковай стаянкі Асавец 7 // ГАЗ. № 21. 2006. С. 186-188.

34. **Чарняўскі, М.М.** Да гісторыі выяўлення і даследавання тарфяніковай стаянкі Крывіна 1 (1934-1963) // ГАЗ. № 21. 2006. С. 16-24.

35. **Чернявский, М.М.** К проблеме хронологии неолита Беларуси // Проблемы хронологии и этнокультурных взаимодействий в неолите Евразии. СПб., 2004. С. 149-154.

36. **Янитс, Л.Ю.** Поселения эпохи неолита и раннего металла в приустье р. Эмайыги (Эстонская ССР). Таллин, 1959.

37. **Янитс, К.Л.** Рыболовство и морской промысел в каменном веке на территории Эстонской ССР // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита - раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Л., 1991. С. 25-38.

38. **Butrimas, A.** Šarnelės neolito gyvenvietė. Vilnius, 1996.

39. **Gumiński, W.** Kultura Zedmar. Na rubieży neolitu «zachodniego» // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w mizdzyręczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001. S. 133-152.

40. **Ilkiewicz, J.** From studies on cultures of the 4th millennium B.C. in the central part of the polish coastal area // PA. Vol. 36.1989. S. 17-55.

41. **Jaanits, L.** Die kennzeichnende Ziige der Siedlung Tamula // ISKOS, № 4.1984. S. 183-193.

42. Lože, I. Jauni materiali par agro neoitu Lubana lidzenuma zvidzes apmetne // Latvijas PSR zinatnu akademijas vestis. Nr. 6 (431). 1983. S. 89-100.

43. Naujausia Lietuvos akmens amžiaus medžiaga (1976-1980). Ataskaitnes parodos katalogas. Vilnius, 1980.

44. **Rimantienė,** R. Šventosios 6-oji gyvenvietė // LA. № 14.1996. S. 83-173.

45. Szmyt, M. The Absolute (Radiocarbon) Chronology of the Central and Eastern Groups of the Globular Amphora Cultures // The Absolute Chronology of Central Europe 3000-2000 BC. Poznań - Bamberg - Rahden / Westf., 2001. P. 25-80.

46. **Vankina, L.** The collection of stone age bone and antler artefacts from lake Lubana. Catalogue. Riga, 1999.

47. **Volkaitė-Kulikauskienė, R.** Narkūnų Didžioso piliakalnio tyrinėjimų rezultatai // LA. № 5. 1986. S. 5-48.

48. **Włodarczak, P.** The Absolute Chronology of the Corded Ware Culture in South-eastern Poland // The Absolute Chronology of Central Europe 3000-2000 BC. - Poznań - Bamberg - Rahden / Westf., 2001. P. 103-130.

*Maxim Charniauski*

**Artefacts of bone and antler from Kryvina 1 and Kryvina 2 sites**

Kryvina 1 and Kryvina 2 sites are situated in the south part of Kryvina peat bog near Galousk village (Sianno district of Vitsebsk region). They existed in III - first part of II millennium BC, their materials belonged to Usviaty and (mainly) to Northernbelarusian cultures. There are 232 artifacts of bone and antler among this sites material (168 of them come from Kryvina 1). They relate to 3 categories of wares: 1) hunting and fishing tools; 2) work and household tools; 3) art and cult artifacts or musical instruments. There are 15 classes of bone and antler wares: arrow-heads, harpoon-heads, daggers, spear-heads, fishing hooks, axes, chisels, punches, «fish knives» (made of wild boar tusk), pressure tools, retouchers, ornamentors, pendants, beads and flutes.

This collection is almost the same as other Kryvina peat-bog sites (Asavets 2, Asavets 7, Kryvina 3). The main part of it belongs to Northernbelarusian culture. The closest analogies come from Lubana lake region (Latvia).



*Мал. 1. Наканечнікі стрэл і іх фрагменты: 1-21 - Крывіна 1, 22 - Крывіна 2 (1-9, 11-21 - костка, 10 - рог)*




*Мал.* ***2.*** *Крывіна* ***1:****1 - верагодны наканечнік дзіды, 2 - наканеннік гарпуна, 3 - верагодная ножка рыбацкага кручка, 4 - насад наканечніка гарпуна,* 5-7 *- фрагменты кінжалаў*



*Мал. 3. Крывіна 1:1-4 - сякеры, 5-7 - далоты, 8 - цясла*



*Мал. 4. Крывіна 1:1-4 - праколкі, 5,6- «рыбныя нажы», 7 - рэтушор, 8 - адціскальнік, 9, 10 - арнаменціры*




*Мал. 5. Крывіна 1:1-9- падвескі, 10 - жалейка, 11 - нарыхтоўка пацерак*

# АРХЕАЛОГІЯ ЖАЛЕЗНАГА ВЕКУ

*Вадим Белевец*

## МОГИЛЬНИК БРЕСТ-ТРИШИН: 30 ЛЕТ ПО ОКОНЧАНИИ РАСКОПОК

Трудно переоценить значение раскопок могильника в Брест-Тришине, как и вклад Юрия Владимировича Кухаренко в изучение древностей вельбарской культуры в Восточной Европе. Две его монографии: «вельбарская» часть издания «Памятники железного века Полесья» (1961) и «Могильник Брест-Тришин» (1980), создали фундамент источниковедческой базы по памятникам этой культуры на территории Беларуси и Украины, лишь в незначительной степени пополнившейся за последние 25 лет (Каспарова, 1989; Русанова, 1993; Вяргей, 1999а). Благодаря новаторскому для своего времени подходу к организации структуры и подачи материалов, книга о брест-тришинском могильнике стала примером полной и качественной публикации памятника римского периода. Анализ могильника, представленный Ю.В. Кухаренко, в полной мере отвечал актуальному уровню развития исследований. В 1970-х гг. в изучении материалов Брест-Тришина также успешно развивалось «технологическое» направление, в чем-то опередившее свое время: часть изделий из металлов была подвергнута металловедческому анализу (Черных, Хаферте, Барцева, 1970); А.А. Бобринским был высказан ряд замечаний относительно технологии изготовления посуды из погребений этого могильника (Бобринский, 1978, с. 55, 139-140, рис. 53:2, с. 154-155, с. 179, с. 231, рис. 97:5)[1].

Со смертью Ю.В. Кухаренко в Беларуси, как и в Восточной Европе в целом, полевые исследования на могильниках вельбарской культуры прервались. После распада СССР в Беларуси не оказалось исследователей, специализировавшихся на изучении памятников этой культуры. Основной массив находок брест-тришинского могильника поступил в фонды Государственного Эрмитажа в Петербурге, и непосредственная работа белорусских археологов с этими материалами была затруднена. Российские же исследователи, в круг научных интересов которых входили древности вельбарской культуры, лишившись возможности полевой работы на памятниках Беларуси и Украины, сконцентрировались на аналитической обработке результатов раскопок 1960-1980-х гг. Дальнейшее изучение материалов могильника Брест-Тришин строилось вокруг вопросов относительной хронологии и эволюции погребального обряда памятника - аспектах, действительно нуждавшихся в доработке. В свое время Ю.В. Кухаренко была предложена общая абсолютная датировка могильника: около 170-270 гг. н.э. (Кухаренко, 1980, с. 63). Эти выводы вполне соответствуют и современному уровню знаний об абсолютной хронологии древностей вельбарской культуры. При увязке комплексов брест-тришинского могильника с периодами относительной хронологии Ю.В. Кухаренко опирался на разработки Г. Эггерса и К. Годлевского (Кухаренко, 1980, с. 60-63). В 1981 г. М.Б. Щукин, используя метод «узких дат», предпринял попытку выделить на

---

[1] Следует особо отметить последнюю работу. Насколько мне известно, наблюдения А.А. Бобринского до сегодняшнего дня остаются единственной попыткой технологического подхода к керамике вельбарской культуры.

основании датированных комплексов горизонты брест-тришинского могильника, которые отвечали бы фазам центральноевропейской относительной хронологии (Szczukin, 1981, s. 136-143, 146). На мой взгляд, эта работа остается наиболее удачной среди исследований российских авторов, затрагивавших после Ю.В. Кухаренко вопросы хронологии могильника в Брест-Тришине. Во второй половине 1980 - начале 2000 гг. к анализу материалов этого памятника неоднократно обращались представители новой генерации российских исследователей - И.А. Бажан, О.А. Гей, (Бажан, Гей, 1989; Гей, Бажан, 1997) и О.В. Шаров (Sarow, 2000). Общим для этих работ является стремление к использованию корреляционного метода в качестве ведущего и в значительной мере «самодостаточного» инструмента исследования. Не имея ничего возразить против идеи корреляционного метода как такового, и целесообразности построения «внутренней» относительной хронологии памятников в частности, не могу не отметить, что его применение упомянутыми авторами в отношении материалов брест-тришинского могильника оказалось не совсем удачным. Изложение критических замечаний к упомянутым работам заняло бы объём, избыточный в этой статье, и я ограничусь лишь замечаниями общего порядка.

1. Использованный в отношении брест-тришинского могильника, «независимый» корреляционный метод не принёс результатов, которых не удалось бы достигнуть при традиционном анализе «вручную».

2. Корреляционный метод, как всякий другой инструмент исследования, имеет свои плюсы и минусы, а главное - ограничения в использовании, отдавать отчёт которым необходимо.

3. «Независимость» в применении корреляционного метода имеет свои пределы, поскольку на том или ином этапе исследования, но неизбежно, «хронологические индикаторы» и «индикаторы синхронизации» должны соотноситься как с датировками вещей, так и фазами относительной хронологии, принятыми для культуры в целом. Здесь многое зависит как от личного, субъективного опыта исследователя, так и уровня его подготовки в целом.

4. Работы И.А. Бажана, О.А. Гей и О.В. Шарова объединяет стремление к максимально полному использованию в качестве датирующего материала типов посуды, которые в рамках вельбарской культуры в целом имеют широкие рамки бытования. Этот подход и сам по себе вызывает возражения (прежде всего потому, что могильник в Брест-Тришине не был исследован целиком), но он совершенно недопустим в тех случаях, когда применяется в ущерб общепринятой хронологии деталей костюма и других вещей из этих же комплексов, датировка которых гораздо более определённа.

5. Полученные таким путем выводы (некоторые из них можно оценить как в большей или меньшей мере спорные, часть же - как очевидно неверные), И.А. Бажан и О.А. Гей затем достаточно жестко увязываются с особенностями погребального обряда.

6. За счёт этого, в свою очередь, устанавливаются датировки ряда комплексов, не включающих хронологически выразительных вещей. Корректность этого метода спорна. Но совершенно недопустимым является дальнейшее распространение этих выводов на памятники вельбарской культуры Восточной Европы в целом. Остаётся также неясным, на каком основании последние так резко выделяются из общего массива памятников вельбарской культуры.

В 1980-1990-е гг. Р. Волангевичем для выделенной им вельбарской культуры была предложена релятивная хронология, учитывавшая особенности ритмов ее собственного развития (Wołągiewicz, 1981a; 1981b; 1986; 1993, s. 24-26). В течение четверти века, прошедшей с момента издания материалов могильника в Брест-Тришине,

